Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года

№ 03 (824) 21 студзеня 2016 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Купанне на Вадохрышча! Возера Бяглец, 19.01.2016 г.

Фота Ул. Скрабатуна.



## Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва падаюць з пачатку мінулага года

**Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі (грашовыя даходы за вылікам падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэктаваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені-лістападзе 2015 года знізіліся на 5,6% да ўзроўню студзеня-лістапада 2014 года.**

Гэты паказчык падае з пачатку 2015 года: у студзені – на 2,5%, студзені-лютым – на 3,4%, студзені-сакавіку – на 3,8%, студзені-красавіку – на 4,8%, студзені-маі – на 5%, студзені-чэрвені – на 4,9%, студзені-ліпені – на 5,1%, студзені-жніўні – на 5,3%, студзені-верасні і студзені-кастрычніку – на 5,4%.

У агульным аб'ёме грашовых даходаў аплата працы займае 61,1%, даходы ад прадпрымальніцкай і іншай дзейнасці, якая прыносіць даход, – 8,2%, трансферты насельніцтву (пенсіі, дапамогі, стыпендыі і іншыя трансферты насельніцтву) – 23%, даходы ад уласнасці і іншыя даходы – 7,7%.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## Падзенне ВУП у Беларусі ў 2015 г. склала 3,9%

**ВУП Беларусі ў 2015 годзе знізіўся на 3,9% — пра гэта паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт.**

У 2014 годзе ў эканоміцы Беларусі назіраўся рост на 1,7%.

Аб'ём выпуску прамысловай прадукцыі знізіўся сёлета на 6,6%, выпуск сельскагаспадарчай прадукцыі гаспадаркамі ўсіх катэгорый уласнасці зменшыўся на 2,8%

На гэты год урад прагназуе невялікі рост эканомікі – на 0,3%. Міжнародныя фінансавыя інстытуты прагназуюць, што ВУП Беларусі і ў 2015 годзе працягне зніжацца.

***nn.by***



ISSN 2077-8023



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

**Віцебская вобласць**

# Кадры чакае экзамен

■ Станіслаў Раманчук.

**Кіраўніцтва краіны спадзяецца, што ў самай паўночнай вобласці, у Прыдзвінні, з цягам часу ўдасца пераадолець шэраг хранічных праблем, каб яна падцягнулася ў развіцці да перадавых рэгіёнаў.**

Аб гэтым дэталёва ўзгадвалася нядаўна ў аблвыканкаме падчас прадстаўлення актыву вобласці новага прэзідэнцкага памочніка, галоўнага інспектара па Віцебшчыне Аляксандра Пазняка. На гэту важную пасаду яго перавялі з беларускай сталіцы, дзе ён кіраваў адміністрацыяй Савецкага раёна Мінска. Аднак главу вобласці радуе, што ў рэгіён прыйшоў працаваць вопытны ўпраўленец, які добра ведае яго патэнцыял, магчымасці і дзеючыя кадры, паколькі тры гады раней працаваў тут памочнікам А. Косінца, а потым стаў мэрам Полацка. Між тым, упраўленцаў усіх рангаў сёлета чакае няпросты экзамен, бо на Віцебшчыне летась пры тэмпах росту прамысловай вытворчасці 110% больш чвэрці прадпрыемстваў і арганізацый сталі стратнымі. У сельскай гаспадарцы атрымалі ў мінулым годзе амаль 1,4 млн. тон збожжа, але фінансавы стан большасці гаспадарак гаротны, эфектыўнасць гаспадарання нізкая. Вобласць вельмі залежыць ад дзейнасці нафтахімічнага комплексу Наваполацка, усё больш пагроз узнікла для нармальнага функцыянавання раёнаў глыбінкі, адкуль маладыя людзі з'язджаюць, не бачачы для сябе перспектыў. Урад краіны ставіць актыву вобласці няпростыя задачы: прыцягнуць у бліжэйшыя 5 гадоў інвестыцый на 2,5 млрд. долараў і не толькі, як раней, пераважна ў буйныя гарады. Не будзе ніякага руху наперад, калі ў вобласці штогод не будуць з'яўляцца дзясяткі новых высокапрадукцыйных прадпрыемстваў і асваення новых рынкаў збыту прадукцыі, для чаго спатрэбяцца веды, вопыт і майстэрства кіраўнікоў і спецыялістаў.

**Глыбоцкі раён**

# Зіма слязам не верыць

■ Кастусь Александровіч

**Сёлета пачатак года ў Беларусі аказаўся даволі сумным з-за вялікай колькасці розных непрыемных здарэнняў, якія справакаваў самы халодны за апошнія 30 гадоў перыяд масавых калядных і навагодніх святаў.**

Практычна кожныя суткі па краіне фіксавалася ў сярэднім па 30 і болей пажараў. За першую дэкаду месяца, на жаль, вогненны певень забраў жыцці ўжо 62 нашых суайчыннікаў, такіх ахвяр не было нават падчас самых крывапралітных баёў у Афганістане. У гэтай сумнай статыстыцы заняў сваю нішу і Глыбоцкі раён. Падчас працяглых выхадных на праваслаўнае Раство Хрыстова познім марозным вечарам паступіла паведамленне аб узгаранні жылога дома ў вёсцы Кішы. У выніку пажару, які ўзнік па неўстаноўленай пакуль прычыне, у агні загінулі гаспадар хаты і ягоны знаёмы, які знаходзіўся ў гасцях. Ахвяраў пажараў магло быць і болей, але супрацоўнікі МНС дзейнічалі шмат дзе прафесійна і выратавалі жыцці 61 беларуса. Дарэчы, на Глыбоччыне гэты трагічны выпадак стаў першым пажарам новага высакоснага года і адразу з чалавечымі ахвярамі. Першыя дні года прынеслі таксама і шэраг сур'ёзных дарожна-транспартных здарэнняў. Менавіта на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ў цёмны час сутак святочны вечар аказаўся апошнім для яшчэ аднаго мужчыны. У вёсцы Сяменчыкі вадзіцель іншамаркі з Полацка на дарозе наехаў на "Audi" на ляжаўшага веласіпедыста. У выніку ДТЗ смяртэльную траўму атрымаў жыхар Міёрскага раёна з вёскі Калінавае. Полацкі кіроўца скрыўся з месца здарэння, але неўзабаве ў выніку спецмерапрыемстваў яго міліцыя адшукала і затрымала. У гэтай бядзе ўжо нічога не паправіш, але ў такі перыяд года ўсё ж лепей не рызыкаваць і не ездзіць на слізкіх зімовых дарогах.

**Пастаўскі раён**

# Закружыў шляхецкі баль

■ Чэслаў Якубовіч.

**У далёкім мінулым у жыцці і культуры паводзін нашых продкаў было нямала таго, на што трэба раўняцца ў новым стагоддзі з яго прасунутымі тэхналогіямі.**

Гэта бліскуча пацвердзіў сапраўдны шляхецкі баль, які ў другі раз запар быў днямі арганізаваны ў Пастаўскім раёне. Спачатку яшчэ пазалетась упершыню ён прайшоў у Дунілавіцкім сельскім Доме культуры і ўсім вельмі спадабаўся. На гэты раз прыгожых маладых дам у бальных сукенках і такіх жа галантных хлопцаў у шыкоўных касцюмах з 14 буйнейшых населеных пунктаў раёна сустрэла ў абрамленні свечак у кандэлябрах утульная танцавальная зала Навасёлкаўскага цэнтра культуры. Як і раней, адкрыў баль пад акампанемент сапраўднага аркестра народных інструментаў з гарпасёлка Варапаева парны ўрачысты танец "Паланэз". З вялікім задавальненнем юнакі і дзяўчаты дагэтуль развучылі і нядрэнна выконвалі і іншыя танцы мінулых эпох: па-дэ-грас, мазурку, вальс, менуэт, па-дэ-труа, польку, галоп і іншыя. Як і нашы далёкія продкі, цяперашняя моладзь з задавальненнем акунулася ў атмасферу мінулых стагоддзяў, калі ў модзе былі на такіх балях розныя шляхетныя салонныя гульні. Для ганаровых гасцей і гледачоў балю за святочна сервіраванымі сталамі яго распарадчыкі вынеслі розныя пачастункі і, нават, шампанскае, адчуваўся сапраўдны салонны этыкет. Акрамя гэтага, падчас балю гучалі песні, прайшоў дабрачынны калядны аукцыён на рэабілітацыю пасля складанай аперацыі маленькай жыхаркі райцэнтра. Усіх заінтрыгаваў і выбар каралевы балю, якой стала Аліна Казаравец з Варапаева, а ўжо зараз пачалася падрыхтоўка да трэцяй па ліку такой цікавай імпрэзы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 21.01.16 | | | | Пятніца 22.01.16 | | | | Субота 23.01.16 | | | | Нядзеля 24.01.16 | | | | Пан. 25.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -9 | -7 | -12 | -14 | -13 | -11 | -13 | -9 | -12 | -12 | -18 | -21 | -21 | -16 | -21 | -18 | -12 | -8 |
| Ціск | 746 | 747 | 749 | 751 | 754 | 756 | 756 | 756 | 755 | 755 | 757 | 758 | 759 | 760 | 761 | 761 | 760 | 756 | 752 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-В | 3 Ю-В | 3 В | 3 С-В | 1 С-З | 1 С-З | 2 С-З | 2 З | 1 Ю-З | 3 В | 2 С-В | 3 С | 1 С-В | 1 С-З | 1 С | 1 Ю | 3 Ю | 5 Ю-З | 4 Ю-З |
| Вільготнасць | 86 | 89 | 84 | 88 | 89 | 91 | 88 | 88 | 89 | 90 | 84 | 88 | 89 | 91 | 85 | 88 | 83 | 89 | 88 |

# Аб самым надзённым

## БЕЗ АБНАЎЛЕННЯ ІСНУЮЧАЙ СІСТЭМЫ ГАСПАДАРАННЯ БЕЛАРУСІ НЕ ЎДАСЦА ПЕРААДОЛЕЦЬ ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ І СПАД



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ва ўсім свеце спачатку старанна вывучаюць абстаноўку на рынках збыту, знаходзяць плацежаздольных заказчыкаў і толькі потым фарміруюць вытворчую праграму, а ў нас па-ранейшаму кіруемся старымі савецкімі планамі і заданнямі.**

Нядаўнія навагоднія і калядныя святы многія беларусы сустракалі не ў самым радасным настроі. Справа ў тым, што з розных куткоў краіны рэгулярна прыходзілі напрыканцы снежня паведамленні аб вымушаных адпачынках цэлых заводаў і фабрык па некалькі тыдняў. Попыт на беларускую прадукцыю прагнае падаць, бо і ў нас, і ў асноўных гандлёвых партнёраў – у Расіі, іншых постсавецкіх рэспубліках зменшыліся плацежаздольныя магчымасці, і стала значна меней заказаў. Невыпадкова ў мінулым годзе ў Беларусі рэзка вырасла колькасць прадпрыемстваў, якія перайшлі на трох альбо чатырохдзённы рэжым працы.

Нагадаем, што летась спынялі на нейкі час свае галоўныя канвееры такія гіганты індустрыі, як сталічныя МАЗ, МТЗ, завод халадзільнікаў "Атлант", жлобінскі БМЗ, вагонабудаўнічы завод у Магілёве, "Гомельдрэў" і многія іншыя. Толькі ў беларускай прамысловасці няпоўная занятасць вырасла больш чым у 2 разы ў 2015 годзе, а на многіх прадпрыемствах прайшлі істотныя скарачэнні штату персаналу. Па афіцыйных дазеных Белстата, летась за першыя 3 кварталы года ў нас было неадпрацавана амаль 3,5 млн. чалавека дзён. Практычна гэта азначае, што штодзень вымушана пазбаўляліся працы 18 тысяч рабочых і служачых і добра калі ім за такі прагул выплочвалі да 2/3 акладу.

Кожны, хто крыху разбіраецца ў законах эканомікі, адразу скажа, што існаваўшая ў нас каманднаадміністрацыйная мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця сябе ўжо вычарпала. Поўнасцю аказалася праваленай мінулая пяцігодка, бо замест намечанага на 2011-2015 гады эканамічнага росту ў памеры 62-68 % атрымалі фактычна ў 10 разоў меней. У Беларусі доля высокатэхналагічных сучасных вытворчасцяў XXI стагоддзя складае ўсяго 2% і невыпадкова, што па ўзроўні прадукцыйнасці працы беларусы саступаюць дзяржавам ЕС ужо ў 4 разы.

Ма дажыліся да таго, што цэлыя галіны эканомікі і асобныя вытворчасці апынуліся на мяжы гібелі. Яшчэ ў кастрычніку, напрыклад, перасталі ў Беларусі выпускаць тэлевізары, услед за віцебскім "Віцязем" да канца года поўнасцю спыніўся сталічны тэлезавод "Гарызонт". Ужо відавочна, што амбіцыйны план мадэрнізацыі айчыннай эканомікі сябе не апраўдаў і праваліўся, што пацвярджае сітуацыя не толькі на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі. Ва ўсім свеце спачатку старанна вывучаюць абстаноўку на рынках збыту, знаходзяць плацежаздольных заказчыкаў і толькі потым фарміруюць вытворчую праграму, а ў нас па-ранейшаму кіруемся старымі савецкімі планамі і заданнямі.

У выніку быццам заводы і фабрыкі працуюць, нарошчваюць аб'ёмы вытворчасці, а потым яна не знаходзіць попыту, склады і двары бываюць завалены нікому не патрэбнай гатовай прадукцыяй. Яшчэ адзін прыклад калапсу існуючай сістэмы: напрыканцы восені на 10% знізілася ў Беларусі вытворчасць тэкстыльных вырабаў. На сталічным камвольным камбінаце якраз завяршылася мадэрнізацыя, якая працягвалася 8 гадоў і запатрабавала 100 млн. еўра інвестыцый. Аднак стан яго эканамічнага здароўя чамусьці пагоршыўся, камбінат увайшоў у дзясятку найбольш праблемных, стратных беларускіх прадпрыемстваў. Абураны гэтым кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка адмяніў намечаную туды рабочую паездку.

На жаль, такіх вось "хворых" камбінатаў у нас ужо шмат, а найбольш праблем цяпер у трох мадэрнізаваных айчынных цэментных заводаў. На іх абнаўленне Беларусь патрацiла яшчэ 0,5 млрд. долараў, а цяпер фінансісты хапаюцца за галовы, што яны сталі самыя стратныя. Ад непрададзенай прадукцыі нават трашчаць склады заводаў ад Мінска да ўскраін, і на гэтым фоне закрыліся многія гандлёвыя месцы на рынках краіны. Адным словам, наступіў непрыемны момант ісціны: беларуская эканоміка апусцілася ў стадыю дэпрэсіі, непрастага фінансавага становішча і далейшай нявызначанай макраэканамічнай сітуацыі.

Вось чаму, як бы мы ўсе не хацелі гэтага, а Беларусь няўхільна ідзе да росту беспрацоўя. А паколькі даходы насельніцтва будуць зніжацца адначасова з ростам цэн ( інфляцыя сёлета,праўда, не будзе значна расці, як раней), то і людзі стануць меней набываць розных тавараў. Тут ужо будзе многім не да раскошы, пакупніцкая здольнасць беларусаў яшчэ зменшыцца, хапіла б ім грошай пракарміцца і абуцца, адзецца. Па словах аўтарытэтных спецыялістаў, сёлета курс долара дасягне больш як 20 новых беларускіх рублёў, а новаму-старому ўраду Беларусі патрэбна будзе адшукаць сродкі на падтрымку найбольш неабароненых слаёў насельніцтва, на павышэнне заробкаў бюджэтнікаў.

Аднак цудаў у эканоміцы не бывае і, каб пачаць краіне выхад з сістэмных эканамічных праблем, спатрэбяцца новыя энергічныя меры. Неабходна пачынаць мяняць існаваўшую грувасткую структуру эканомікі і прыняцця рашэнняў, пачынаць патрэбныя рэформы, інакш гэты крызіс яшчэ болей зацягнецца. Будзем усе жыць па сродках, прыйдзецца зацягнуць паясы, што аднымі з першых адчулі пенсіянеры, для якіх адмянілі ільготы па транспартнаму падатку.

## Дзень за днём

**Са студзеня на 20% падаражэлі газ, электрычнасць, шэраг медыцынскіх паслуг. У пачатку месяца закрыліся на рынках 68% гандлёвых месц. Год пачаўся ў Беларусі з мноства пажараў у халады і шматлікіх трагедый з гібеллю людзей у агні. Прэзідэнт А. Лукашэнка запатрабаваў за 3 гады стварыць сістэму абароны і падтрымкі пажылых людзей. Напрыканцы года ў снежні золатавалютныя рэзервы зменшыліся яшчэ на 408 млн. $. У Беларусі адмянілі абавязковую сертыфікацыю паслуг СТА, у лютым пачнуць выдаваць транзітныя аўтамабільныя нумары новага ўзору.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Афіцыйны прадстаўнік НАТА О.Лунгеску катэгарычна абверг прэтэнзіі У. Пуціна, што альянс і яго палітыка прадстаўляюць пагрозу нацыянальнай бяспецы Расіі.

**КНДР.** Рэзкае абвастрэнне абстаноўкі ў рэгіёне выклікала выпрабаванне вадароднай бомбы, праведзенае самай закрытай краінай свету, гэта ўстрывожыла Савет бяспекі ААН.

**Карэя.** На граніцу з КНДР пасля выпрабавання ёй бомбы краіна зноў аднавіла прапагандысцкае вяшчанне з вялікіх дынамікаў, з-за гэтага ледзь не пачалася раней вайна.

**Англія.** На Лонданскай біржы цана нафты Brent апусцілася на 11-гадовы мінімум ніжэй 33 USD за барэль, расійскі рубель адразу ж прадоўжыў імкліва слабець.

**Кітай.** Міжнародныя рэзервы краіны за год скараціліся на рэкордныя 512,6 млрд. USD, абвал юаня і кітайскіх бірж паскорыў зніжэнне сусветных цэн на нафту.

**Венесуэла.** Прэзідэнт М. Мадура папрасіў парламент зацвердзіць план надзвычайных мер па выхаду з крызісу, у краіне ўжо дэфіцыт харчавання, рост цэн за год перавысіў 124 %.

**Літва.** Мы дапаможам Беларусі, як пацвердзіў глава МЗС Л. Лінкявічус, калі яна захоча зблізіцца з ЕС, але ніхто за беларусаў не будзе вырашаць, якія рэформы ім праводзіць.

**Эстонія.** На авіябазе Амары размясціліся 4 бельгійскія самалёты F16 і разам з ваеннымі лётчыкамі Іспаніі пачалі паветранае патруліраванне над граніцамі Прыбалтыкі.

**ЗША.** Знакаміты рускі журналіст У. Познер заявіў перад сваёй творчай сустрэчай у Мінску, што Беларусь павінна мець нармальныя адносіны як з РФ, так і з Захадам.

**Украіна.** Кампанія Coca-Cola афіцыйна прынесла краіне прабачэнне за публікацыю карты Расіі з Крымам і заявіла аб вялікім значэнні ўкраінскага рынка, дзе працуюць 2 яе заводы.

**Германія.** Усю краіну ўзрушылі нападзенні ноччу п'яных і агрэсіўных маладых мужчын на жанчын у Кёльне, Гамбургу і Штутгарце, ад А. Меркель патрабуюць прыняць меры.

**Славакія.** Урад краіны адмовіўся прымаць па абавязковай квоце ЕС уцекачоў-мусульман пасля нападзенняў на жанчын у Германіі, такой пазіцыі прытрымліваецца і Польшча.

**Ізраіль.** Услед за закрыццём пасольства краіны ў Мінску Беларусь у адказ закрыла сваё пасольства ў Тэль-Авіве, з 26 лістапада паміж дзяржавамі дзейнічае бязвізавы рэжым.

**Іспанія.** Кампанія Babipod выпусціла першы ў свеце гаджэт-вагінальны дынамік для цяжарных жанчын для ўздзеяння спакойнай прыемнай музыкай для будучых дзяцей.

**Чэхія.** На заснежанай слізкай дарозе вадзіцель аўтобуса з беларускімі турыстамі не справіўся з кіраваннем, "Neoplan" перакуліўся, 15 пасажыраў атрымалі траўмы.*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Работнікі ўзводзімай тут АЭС, даведаліся, што Літва заклікала суседнія краіны не купляць беларускую электраэнергію, якую пачне выпрацоўваць іх атамная станцыя.

**Гомель.** Пасля электрыфікацыі ўчастка чыгункі да Жлобіна з красавіка з абласнога цэнтра ў беларускую сталіцу можна будзе даехаць сёлета на электрычцы па новаму маршруту.

**Траскаўшчына.** У мясцовым доме-інтэрнаце "Світанак" для пажылых А. Лукашэнка заявіў, што калі старыя будуць тут дажываць, то павінны ўзамен перадаць сваё жыллё.

**Мінск.** Зараз стала відавочна, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, што беларускі рэжым не падобны на расійскі, бо не рвецца ваяваць і даказваць сваю "круцізну" заклятаму Захаду.

**Гомель.** Стратны гігант ААТ "Гомсельмаш" скараціў яшчэ 706 чалавек (8% персаналу), найбольш жа ў краіне "урэзаў" летась штат на 14% мясцовы завод ліцця і нармаляў.

**Крычаў.** Урад Беларусі прадаставіў зноў падтрымку "Крычаўцэментнашыферу" і яшчэ двум стратным мадэрнізіраваным цэментным заводам, іх цэмент не мае збыту за мяжой.

**Мінск.** Старшы даследчык CASE-Беларусь У. Валетка заявіў, што дзяржава прайграла з падаткам на дармаедаў, узровень беспрацоўя сёлета ў краіне вырасце да 5,5-6%.

**Магілёў.** Эканаміст Леў Марголін заявіў, што людзі не купляюць на рынках беларускія тавары таму, што яны не адпавядаюць сучасным крытэрыям моды, цаны і якасці.

**Брэст.** Падчас моцных маразоў тэмпература паветра ў адным з пакояў дзіцячага сада №47 апусцілася да +7 градусаў цяпла, дзетак перавялі ў больш цёплыя памяшканні.

**Мінск.** Глава БПЦ, мітрапаліт Павел здзівіў сваёй заявай, што быццам беларускамоўныя набажэнствы не падабаюцца праваслаўным беларусам і людзі перасталі хадзіць у храмы

**Дзяржынск.** Днём на чыгуначнай станцыі "Станькава" пасажырскі поезд на Брэст пратараніў трактар, які заглох на пераездзе, затрымка руху склала адну гадзіну.

**Лельчыцы.** Гомельскі абласны суд пакараў 23 гадамі турмы работніка мясцовага ПМС, які пакрыўдзіўся на жарт калег, падпаліў аўтамабільны фургон і трое чалавек у ім памерлі з-за апёкаў.

**Столін.** З-за ранняга закрыцця заслонкі печкі ледзь не загінулі двое дзяцей і трое дарослых, іх даставілі ў мясцовую раённую бальніцу пасля атраўлення чадным газам.

**Мінск.** З цяжкасцю 10 дзеючых хакеістаў у складзе каманды Беларусі выйгралі XII Калядны турнір на прызы А. Лукашэнкі, дзе адолелі ў фінале 2:1 фінскіх ветэранаў.

**Жлобін.** Некалькі дзён урачы раённай бальніцы змагаліся за жыццё 24-гадовага хлопца, але ён памёр у рэанімацыі ад цяжкай траўмы, атрыманай ад выбуху піратэхнікі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## З 15 студзеня адпусцілі цэны на «сацыяльныя» прадукты



■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі з 15 студзеня адпусцілі кошты на сацыяльна значныя тавары. Цяпер Мінгандлю будзе кантраляваць цэннік на хлеб, мяса, яйкі, малочныя прадукты і дзіцячае харчаванне толькі пры неабходнасці, але не больш за 90 дзён на працягу года. У ведамстве спадзяюцца, што вытворцы і гандаль будуць «узважана падыходзіць да цэн на сацыяльна значныя тавары».**

«З улікам адмены адміністрацыйнага рэгулявання цэн на сацыяльна значныя тавары мы хацелі б папрасіць гандлёвыя арганізацыі і вытворцаў узважана падыходзіць да цэнавай палітыкі з улікам рэальнай эканамічнай сітуацыі. Тавары павінны быць такога кошту, каб спажывец мог іх купіць», – паведаміў БЕЛТА начальнік упраўлення эканомікі, фінансаў і цэн Міністэрства гандлю Павел Філіпаў.

Прадстаўнік Мінгандлю нагадаў, што па выніках 2015 года інфляцыя склала 12%. «Рынак харчовых тавараў насычаны, прадстаўлена прадукцыя рознага цэнавага дыяпазону. Гэта дазволіла аслабіць адміністрацыйнае рэгуляванне цэнаўтварэння на сацыяльна значныя тавары, – заявіў Павел Філіпаў. – Рашэнне прынята ў тым ліку ў рамках рэкамендацый міжнародных арганізацый пасля перамоваў, якія праходзілі на ўзроўні ўрада і іншых дзяржорганаў».

Нагадаем, са спісу «сацыяльных» тавараў, цэны на якія да гэтага рэгуляваліся Мінгандлем, выключылі ўсе пазіцыі. Раней у ім былі хлеб жытні і жытнёва-пшанічны, мяса (ялавічына, свініна), мяса курэй і куранят-бройлераў, яйкі курыныя, малочныя прадукты (малако каровіна пастэрызаванае і кефір, смятана, тварог), сухія сумесі і кашы для дзіцячага харчавання, кансервы (мясныя, мяса-раслінныя, рыбныя і рыбараслінныя, агароднінныя, фруктова-ягадныя, плодаагароднінныя) і сокі для дзіцячага харчавання.

Цяпер цэннік на гэтыя тавары будзе рэгулявацца Мінгандлем толькі пры неабходнасці для «выключэння значнага росту цэн пры ажыццяўленні аналізу сітуацыі на харчовым рынку», – растлумачылі ў Саўміне. Прычым кантроль коштаў на названых харчовыя тавары будзе ўводзіцца на тэрмін не больш за 90 дзён на працягу аднаго года.

Акрамя таго, з 15 студзеня адмяняецца рэгуляванне тарыфаў на некаторыя паслугі. Да прыкладу, Міністэрства аховы здароўя не будзе кантраляваць цэннік на прафілактычныя і абавязковыя медагляды грамадзян.

Саўмін таксама змяніў пералік сацыяльна значных тавараў і паслуг, цэны на якія рэгулююцца аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам. З яго выключылі агуркі, памідоры, яблыкі, а таксама агульныя аддзяленні лазняў і душавых. Зараз з харчовых тавараў цэны будуць рэгулявацца толькі на свежую бульбу, буракі сталовыя, моркву сталовую (за выключэннем названых бульбы, буракоў, морквы адкаліброваных, мытых, расфасаваных у перфараваныя пакеты і сеткаватую тару з ужываннем кліпсатара), капусту белакачанную, цыбулю рэпчатую.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Упершыню ў бюджэт заклалі сродкі ў памеры 85 млрд. рублёў для закупак для гаспадарак вобласці паліва і мінеральных угнаенняў да прадстаячай веснавой сяўбы.

**Полацк.** З-за эканамічных цяжкасцяў раней паспяховы завод "Тэхналіт Полацк" перайшоў на трохдзённы графік працы, заробкі знізіліся і сталі выплочвацца са спазненнем.

**Мёры.** Мясцовае радыё, як і радыёпраграмы яшчэ 14 раёнаў вобласці спынілі дзейнасць, захаваліся пакуль самастойныя радыё ў Глыбокім, Лепелі, Ушачах, Чашніках і Паставах

**Браслаў.** Адзін з выпускнікоў БДАТУ, малады эканаміст расказаў Еўрарадыё пра жахлівую сітуацыю з затрымкамі мізэрных заробкаў, вялізных даўгах у гаспадарках раёна.

**Віцебск.** У аблвыканкаме сустрэліся з прадпрымальнікамі рынкаў і гандлёвых цэнтраў, яны паведамілі, што адновяць працу толькі пасля адмены палажэнняў указа № 222.

**Докшыцы.** Міністр юстыцыі Беларусі А. Сліжэўскі асабіста прыехаў і падараваў падшэфнай Бярозкаўскай школе-сад новы кампактны спецаўтобус "Газэль".

**Гарадок.** Толькі напрыканцы снежня мясцовы райаграпрамснаб змог часткова разлічыцца са сваімі 170 працаўнікамі за працу ў верасні, эканамічны суд разглядае яго банкротства.

**Глыбокае.** Пры абследванні жылфонда раёна і іншых рэгіёнаў вобласці праверка пракуратуры выявіла факты частковага разбурэння балконаў, лоджый і іншых элементаў.

**Навапалацк.** Суд пакараў мясцовых камерсантаў пазбаўленнем волі ад 2 да 3-х гадоў за незаконны абмен запчастак для 13 гаспадарак па бартару ў абмен на яйкі, мяса і малако.

**Лепель.** На тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка да канца 2018 года пры падтрымцы ЕС і ААН створаць цэнтр міфалагічнага экатурызма з многімі аб'ектамі.

**Паставы.** Шматдзетная сям'я з райцэнтра Пасечнік, у якой 8 дзяцей, стала 100-тысячным абанентам эфірнага тэлебачання ZALA, год будзе глядзець 5 пакетаў праграм бясплатна.

**Браслаў.** Пасля надта працяглага капітальнага рамонту на працягу 14 гадоў для навучэнцаў Відзаўскага каледжа ўрачыста адкрылі абноўленую спартыўную залу.

**Лёзна.** Упершыню ў раённым Цэнтры культуры ўручылі 17 творчых прэмій "Сунічка" лепшым самадзейным калектывам і індывідуальным выканаўцам, народным майстрам.

**Лынтупы.** Мясцовы пункт спрошчанага пропуску праз граніцу з Літвой стаў працаваць тройчы на тыдзень з 9.00 да 20.00, 4 дні працуе ў раёне пункт пропуску "Мольдзевічы".

**Полацк.** Міліцыя затрымала ў адной з вёсак раёна 20-гадовага непрацуючага хлопца, які вечарам скраў казу з незачыненага хлява мясцовай 79-гадовай пенсіянеркі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Глыбокае: снежныя зімы 1930-х

■ Уладзімір Скрабатун

Цыклон Даніэла, які пагасцяваўшы ў Глыбокім, насыпаў тут пад 30 см снегу, а неўзабаве, пасля невялікага зацішша, здзейсніла свой візіт і Эма. Гэтая "кабета" больш спакайнейшая, абяцала насыпаць толькі пад 10 см. Але, на памяці, усё яшчэ – Хаўер! Ён тут так насыпаў і навеяў, што пасля яго візіту аж дзве зімы былі бясснежнымі! Мужык!

Калі паглядзець архіў зімовых здымкаў Глыбокага 1930-х гг, за "польскім часам", то можна зрабіць высновы, што "хаўерчыкі" і "даніэлкі" наведваліся ў гэты "крэсовы" горад перманентна. Вышыня снегу ў сярэдзіне зімы даходзіла да вышыні локця апушчанай рукі дарослага чалавека, ну, а дзеці да сямі гадоў цалкам хаваліся ў снезе.

На здымках вуліца Габрыэля Нарутовіча[1] (цяпер Камсамольская) у заснежаным Глыбокім 1930-х гг. Мы бачым так званыя "чырвоныя дамы", дзе жылі глыбоцкія "ужэнднікі", г.зн., чыноўнікі глыбоцкай павятовай адміністрацыі (Глыбокае было сталіцай Дзісненскага павету). Забудова ў "закапанскім стылі". Архітэктар – Юліўш Клос, гісторык архітэктуры, прафесар Універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні.

Гэты квартал з шасці дамоў захаваўся і сёння, але ўсё – так перабудавана і знявечана!!! Галерэі зашаляваныя дошкамі, аканіцаў няма, заміж дахоўкі – шыфер і процьма розных прылепак збоку… Дамы былі разлічаныя на пражыванне двух сямей. А цяпер у кожным – колькі? Шэсць, ці восем...

Дарэчы, аўтар гэтых здымкаў – вядомы глыбоцкі фатограф Леанард Рачыцкі, адміністрацыйны сакратар павятовай адміністрацыі. У 1937 годзе быў узнагароджаны срэбным Крыжам заслугі. Вязень ГУЛАГу. Уступіў добраахвотна ў корпус генерала У.Андэрса (інакш бы згінуў у лагеры на Поўначы Расіі). Пасля вайны жыў у Польшчы, напісаў кнігу ўспамінаў. Але і да сёння ў альбомах глыбачан захоўваюцца ягоныя здымкі міжваеннага горада Глыбокае.

1. Габрыэль Нарутовіч, першы прэзідэнт Польшчы пасля аднаўлення незалежнасці быў забіты 16 снежня 1922 года пасля пяці дзён знаходжання на пасадзе.



Зіма 1930-х. Вуліца Габрыэля Нарутовіча ў Глыбокім. *Фота Леанарда Рачыцкага.*



# Куды знікла рыба з возера Кагальнага?



Няма клёву на возеры Кагальным!

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

**Знікла рыба з возера Кагальнага, ці не? Клюе, не клюе? Самы красамоўны маркер – наяўнасць на лёдзе возера рыбакоў. У мінулую пятніцу аўтар гэтага фота налічыў на ім усяго сямёх, якія былі рассыродзеныя па розных кутках вадаёма.**

Тры зімы таму рыбакоў на Кагальным было процьма. І ляшча лавілі вынікова, ды й шчупак трапляў ладны!

Дзве зімы запар на лёдзе возера – бязлюдна... Аўтар прайшоўся па лёдзе. Патрапіў насустрач адзін цікаўны і пытае: *"А вы прафесійна фатаграфуеце, альбо, як амар?"*

– Як аматар.

– *А я некалі займаўся прафесійна.*

– І што Вы думаеце наконт таго, што другі год запар на лёдзе – лічаныя рыбакі

– *Клёву няма! Я тут сам абыйшоў тых, хто сёння ловіць, пацікавіўся плёнам. Злавілі мальцы з раніцы: хто аднаго, хто двух падлешчыкаў... Але што гэта за падлешчык? Менш далоні! Такіх і лавіць нельга. Няма тут ляшча! Увесь сышоў па рацэ ў Беразвецкае возера! Назад не вярнуўся. Там сёння рыбакоў на лёдзе – аж чорна! І нерасту ляшча на Кагальным не было, а на Беразвецкім – такія вялізныя хрыбты з вады ўсплывалі!*

Натуральна, аўтар гэтых радкоў не іхтыёлаг, таму не можа даць экспертнае заключэнне, якое заслугоўвае даверу.

Аднак, як версія... Што было тры зімы таму, калі на Кагальным возеры было процьма рыбакоў? Так, зіма была снежная, і Хаўер тады надта пастараўся! Потым – дзве бясснежныя зімы. Спякотнае лета! У выніку – ні рыбы, ні рыбакоў?

Можна меркаваць, што на пэўным этапе, магчыма, пад час паводкі, лешч з возера Кагальнага мігравў у возера Беразвецкае. А вось назад вярнуцца не тое што не пажадаў, а проста не змог! Глыбіня ракі Беразвіцы ля маста – спыніцеся і паглядзіце – сантыметраў 10, ну, няхай, 15!

Мне падаецца, што ўлады, прапагандуючы брэнд "Глыбокае – беларуская Венецыя" занадта "нахімічылі"! Спусцілі на цэлы метр Беразвецкае возера! Ашалець! Не верыце? Спраўдзіце самі! Падыйдзіце, напрыклад, да берага Беразвецкага возера насупраць вострава і вы ўбачыце над вадой прыступак амаль метровай вышыні! На ўсіх, без выключэння, азёрах такога няма, бо вада за стагоддзі зрабіла плаўны пераход ад берага да глыбіняў вадаёма. А тут прыступка! На столькі спусцілі возера!

Калі б ля пошты, на рацэ ля маста – спраўдзіце самі – не паставілі 5 ці 6 штучных вадаспадаў, то і возера Кагальнае, таксама, збегла б на метр. А лешч – не ласось, каб вярнуцца назад, скакаць праз перашкоды не будзе! Да перароблі Глыбокага пад Венецыю рака Беразвіца была хоць і вузкая, але глыбіня яе – 07,-1,0 м – трымалася стабільна!

Нагадаю, гэта – усяго толькі версія, але версія падмацаваная і фактамі. Паглядзім, што прынясе вясна! Мо грандыёзную паводку!

# У Глыбокім жанілі Цярэшку

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

Жаніцьба Цярэшкі – старадаўні беларускі абрад, які праходзіў уначы на святках. Першапачатковай яго функцыяй было бліжэй пазнаёміць нежанатую моладзь, прымерыць на сябе ролю жанатых людзей. Сутнасць абраду – згуляць жартаўлівае вяселле з імітацыяй вясельных абрадаў, багацем народных песень і танцаў.

Да пачатку XX стагоддзя абрад быў абавязковым атрыбутам зімовых святак, прымяркоўваўся звычайна да Калядаў. Ён быў папулярны на поўначы Беларусі. У некаторых спрошчаных варыянтах ён захаваўся да XXI стагоддзя. Цяпер гэта дзейства можна ўбачыць у некаторых раёнах Віцебскай і Мінскай абласцей.

17 студзеня ў Глыбокае завіталі сябры турыстычнага клуба "Паходнік" з Лепеля. У ГЦК імі было прадстаўлена ўзнаўленне забытага ўжо на Глыбоччыне абраду. Сюды завіталі глыбоцкія журналісты, краязнаўцы, мастакі, а таксама некалькі старажылаў, якія з маладосці памяталі такі абрад, які праходзіў некалі ледзьве не ў кожнай нашай вёсцы.



Актыўны пенсіянер Генадзь Плавінскі, аўтар шматлікіх артыкулаў у "ВГ", апавядае, як праходзіла жаніцьба Цярэшкі ў часы яго маладосці ў раёне Ветрына.

Як апавёў аўтару гэтых радкоў лепельчанін Васіль Шкіндар, дудар: *"Сярод нас няма работнікаў культуры, мы ўсе сябры турыстычнага клуба "Паходнік": разам ходзім у вандроўкі, разам святкуем народныя святы Купалле, гуканне вясны... У нас людзі – розных прафесій. Я – хоць настаўнік па адукацыі, але маю сваю аграсядзібу, ёсць сярод нас і будаўнікі, і аўтарамонтнікі... Запрашаем вас, глыбачан, на гуканне вясны ў Лепель!*



Лявоніха!

# Для законапаслухмяных паляўнічых інспектар, у першую чаргу, памочнік і кансультант

**Паляванне - гэты занятак для самых актыўных і фанатычных людзей. Зносіны з прыродай, выкід адрэналіну пры набліжэнні жаданай дзічыны, дакладны стрэл, трафей, здаецца ўсё, што неабходна паляўнічаму, шмат каму з людзей гэтага не зразумець. Але таму мы ўсе розныя і не падобныя адзін на аднаго.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Перад закрыццём сезона палявання хочацца нагадаць паляўнічым на пушніну, што знаходжанне ў паляўнічых угоддзях са стрэльбай, зараджанай карцеччу (карцеч 5,25 мм і больш) лічыцца парушэннем і цягне штраф і пазбаўленне права палявання, таму выкарыстоўвайце толькі дазволеныя патроны, шрот. У зімовы перыяд паляўнічыя гэтак жа абавязаны строга выконваць Правілы палявання, асабліва на калектыўных паляваннях, пры паляванні на пушнога звера. Патрабаванні правілаў бяспекі на паляванні, на жаль, пісаныя крывёй паляўнічых, няма нічога важней жыцця і здароўя чалавека.

Разрадзіць стрэльбу пры падыходзе да іншага паляўнічага альбо службовай асобы гэта не толькі абавязак паляўнічага, але правілы добрага тону, павага да чалавека.

Паляўнічыя, затрыманыя інспектарамі за розныя парушэнні правілаў палявання часта апраўдваюцца, я не ведаў, што нельга выкарыстоўваць карцеч, перавозіць расчахлёную стрэльбу і г.д. Асабліва маладыя, ды і больш дасведчаныя паляўнічыя не лічаць патрэбным звярнуцца ў органы паляўнічага кантролю па кансультацыю або параду, лічачы, што інспектар – гэта яго вораг, за гэта потым і пакутуюць. Для законапаслухмяных паляўнічых інспектар, у першую чаргу, памочнік і кансультант, а для браканьера - карны орган.

8 студзеня гэтага года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў сумесна з памежным нарадам аддзела памежнай службы "Паставы" ў памежнай паласе затрыманыя двое паляўнічых, жыхар раёна і жыхар сталіцы, дакументаў на права палявання ў дадзенай зоне ў паляўнічых не было, ды і быць не магло, бо паляванне ў памежнай паласе забароненае, да таго ж у аднаго з паляўнічых не была выплачаная дзяржаўная пошліна на права палявання. Канфіскавана паляўнічая зброя, складзеныя адміністрацыйныя пратаколы за незаконнае паляванне і незаконнае знаходжанне ў памежнай паласе. Парушальнікам пагражае штраф, пазбаўленне права палявання і канфіскацыя зброі.

Аналіз парушэнняў правілаў палявання выяўленых супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі за 2015 год выразна паказвае, што асноўную масу грубых парушэнняў правілаў палявання дапускаюць паляўнічыя, стаж палявання якіх да 3 гадоў. Атрымаўшы дзяржаўнае пасведчанне на права палявання, такія горапаляўнічыя лічаць, што ўсё ведаюць і могуць паводзіць сябе ў лесе і са зброяй як хочуць. Але ёсць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, захаванне якіх абавязкова для ўсіх. Старыя і вопытныя паляўнічыя кажуць, што раней стаць паляўнічым было вельмі ганарова і, каб трапіць у гэтую эліту, неабходна пахадзіць некалькі гадоў кандыдатам, затым атрымаць водгукі, г.зн., практычна асабістае даручальніцтва не менш за двух паважаных паляўнічых, здаць вельмі сур'ёзныя іспыты і толькі тады атрымаеш паляўнічы білет. Напэўна, усё гэта неабходна вяртаць, і тады чалавек са стрэльбай не будзе ўспрымацца як браканьер або стралок па дарожных знаках. Прыроду трэба любіць і берагчы, каб кожны з нас мог сказаць сваім дзецям і ўнукам, мы Вам захавалі прыгажосць і багацце нашага краю, беражыце нашу спадчыну.



**Затрыманы паляўнічы з незарэгістраванай зброяй.** *Фота з сайта інспекцыі*

Супрацоўнікі інспекцыі звяртаюцца да паляўнічых: не трэба думаць, што Вы ўсё ведаеце і ўмееце, па любым узнікшым пытанні звяртайцеся да нас альбо да карыстальнікаў паляўнічых угоддзяў за тлумачэннем.

**Тэлефоны кругласутачна: «гарачая лінія»: 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

# Не верце чуткам аб унясенні зменаў у Правілы рыбалоўства

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртае ўвагу, што ў цяперашні час на вадаёмах раёна назіраецца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Гэта звязана з рэзкім паніжэннем сярэднесутачных тэмператур, павелічэннем таўшчыні лёду і багатым снежным покрывам. На асобных водных аб'ектах могуць адзначацца перадзаморныя з'явы. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна гэта возера Царкавішча, Гулідаўскае, Алойзберг, Вялікае, вадасховішча «Азярцы» і некаторыя іншыя.

У мэтах прадухілення шкоды, якая наносіцца рыбным рэсурсам, міжраённая інспекцыя звяртаецца да рыбаловаўаматараў з просьбай прыняць актыўны ўдзел у высечцы майн і палонак, для насычэння вады кіслародам.

Арандатарам рыбалоўных угоддзяў, каб не дапусціць гібель рыбы, рэкамендуецца наладзіць перыядычны кантроль (не менш за адзін раз у 10 дзён) за ўтрыманнем растворанага кіслароду. Пры зніжэнні ўтрымання растворанага кіслароду ў вадзе да 3,0 мг/л, неабходна наладзіць высечку майн, устаноўку чаротавых снапоў у прасечаныя лункі, расчыстку лядовага поля ад снегу для ўзмацнення фотасінтэзу. Пры немагчымасці прадухілення замору - арганізаваць максімальны адлоў рыбы з прыцягненнем усіх наяўных дазволеных прылад лоўлі. На азёрах Царкавішча і Гулідаўскае ў выпадку замору неабходная будзе дапамога грамадзян.

Пры неабходнасці, у выпадку ўзнікнення заморных з'яў рашэннем раённага выканаўчага камітэта па ўзгадненні з міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету, раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, часова, для грамадзян можа быць усталяваны парадак і ўмовы вылаву рыбы без абмежавання колькасці, вагі рыбы і яе памераў, але толькі дазволенымі прыладамі рыбалоўства.

Пераканаўчая просьба да ўсіх рыбаловаўаматараў у выпадках выяўлення перадзаморных або заморных з'яў, на якімнебудзь з вадаёмаў раёна неадкладна інфармаваць міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету і раённы выканаўчы камітэт. У той жа час звяртаемся яшчэ раз да рыбаловаў не карыстацца чуткамі аб унясенні зменаў у Правілы рыбалоўства. Апошнім часам пачасціліся выпадкі затрымання грамадзян за лоўлю рыбы непадпісанымі жэрліцамі, з перавышэннем дазволенай колькасці жэрліц. Парушальнікі сцвярджаюць, што яны бачылі і чулі, што ўнесены змены ў правілы аб тым, што падпісваць жэрліцы не трэба. Жэрліцы павінны быць падпісаныя, норма вылаву рыбы на аднаго чалавека – 5 кг.

**Якіх-небудзь змяненняў у Правілы рыбалоўства не ўносілася, па любым пытанні Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю па тэлефонах: 8-2156-28670 - кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66 -78 МТС.**

**Пра вяртанне ў Беларусь партый малака, масла і сыру паведаміла 18 студзеня ўпраўленне Рассельгаснагляду па Бранскай і Смаленскай абласцях. Ва ўсіх выпадках забарона на ўвоз была афармленая напярэдадні.**

# Расія зноў не пусціла беларускія малако, масла і сыр

Паводле інфармацыі ведамства, у чыгуначны пункт пропуску «Бранск-Льгоўскі» паступіла партыя пітнога стэрылізаванага малака вытворчасці **ААТ «Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат».** Груз масай каля 4 тон ішоў транзітам у Казахстан і суправаджаўся ветэрынарным сертыфікатам Мытнага саюза, выдадзеным дзяржаўнай ветэрынарнай службай Беларусі. Пры правядзенні ветэрынарнага кантролю выяўлена, што дакумент запоўнены з грубымі парушэннямі.

У пункце прыняцця паведамленняў «Чырвоная Горка» забаронены ўвоз 20 тон сметанковага масла вытворчасці ААТ «Лепельскі малочна-кансервавы камбінат». Груз масай 20 тон суправаджаўся ветэрынарным сертыфікатам МС, выдадзеным беларускай Дзяржветслужбы. Пры правядзенні ветэрынарнага кантролю выяўлена, што харчовая прадукцыя перавозілася ў антысанітарных умовах.

У ППУ «Чырвоны Камень» прынята рашэнне аб забароне ўвозу 5,5 тон сыру «Расійскі новы», выпрацаванага ААТ «Рагачоўскі малочнакансервавы камбінат». Груз накіроўваўся ў Расію і суправаджаўся ветэрынарным сертыфікатам МС. Прычынай вяртання паслужыў факт увозу харчовай прадукцыі «без гарантый вытворцы яе бяспекі». Такой гарантыяй з'яўляецца дэкларацыя аб адпаведнасці. 22 снежня 2015 года па прадстаўленні кіравання Рассельгаснагляду дэкларацыя аб адпаведнасці ад 11 лютага 2015 на сыр «Расійскі новы» масавай доляй тлушчу ў сухім рэчыве 40%, 43%, 45%, 48% і 50% Федэральнай службай па акрэдытацыі была адмененая. Звесткі аб адмене дзеяння дэкларацыі аб адпаведнасці былі ўнесеныя ў адзіны рэестр Расакрэдытацыі, пра што было паведамлена ў беларускае прадпрыемства.

Акрамя таго, у ППУ «Чырвоны Камень» на аўтадарозе М13 Бранск – Гомель забаронены ўвоз партыі сметанковага масла вытворчасці ГП «Малочны гасцінец». Груз масай 20 тон накіроўваўся ў Смаленскую вобласць і суправаджаўся ветэрынарным сертыфікатам МС. Пры правядзенні ветэрынарнага кантролю выяўлена, што фактычная дата выпрацоўкі прадукцыі не адпавядае названым у ветэрынарных суправаджальных дакументах.

*nn.by*





# Віншаванкі

## Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Зычым мы Вам у Дзень нараджэння
Поспехаў гучных, удач і натхнення.
Шчыра жадаем здароўя і шчасця,
Каб не было ні няўдач, ні напасцяў.
Жадаем, каб шчасце Вам усміхалася,
А мара любая аднойчы здзяйснялася.
Вяселле і радасць, і добры настрой
Хай крочаць заўсёды з табой!

*Калектыў “ВГ”*

## Уладзіміра Іванавіча Скрабатуна

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть день этот будет счастливым и ясным,
И дело любое пускай удается,
Пусть жизнь станет ярче, добрей и прекрасней,
И сердце почаще от радости бьется,
Пусть дарит удачу, успех и везение
Лучший на свете день — День Рождения!

*Родныя.*

## МНС інфармуе

**на 19.01.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 50;
Гібель людзей – 12, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 1;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма.

За 2015 год па раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінула 3 чалавекі.

# Прычыны няшчасных выпадкаў з электрычнасцю ў побыце застаюцца практычна нязменнымі

■ **А.Н. Ішуцін,**
*інспектар Глыбоцкага МРА “Энерганагляд”.*

Усе мы ведаем, што з электрычнасцю трэба абыходзіцца асцярожна. Аднак у межах роднага дома, ва ўтульнай абстаноўцы, у асяроддзі звыклых рэчаў мы парой легкадумна забываем пра бягучую па правадах небяспеку. Хоць наступствы няправільнага ці неасцярожнага абыходжання з электрапрыборамі могуць быць вельмі сумнымі.

Як ні дзіўна, але прычыны няшчасных выпадкаў з электрычнасцю ў побыце застаюцца практычна нязменнымі на працягу дзесяцігоддзяў – гэта парушэнне правіл эксплуатацыі ці выкарыстанне няспраўных электрапрыбораў, неасцярожнасць і няўважлівасць пры абыходжанні з электрычнасцю, спробы самастойнай разборкі і рамонту электрапрыбораў. Здавалася б, пра гэтыя прычыны ведаюць і памятаюць усе, пачынаючы з дзіцячасадаўскага ўзросту, але шмат хто зацята не ўслухваеццапапярэджанням. З пункту гледжання псіхалогіі гэта зразумела: у сваёй кватэры чалавек адчувае сябе ў бяспецы, бытавыя прыборы з’яўляюцца для яго толькі часткай камфортнага становішча, а звычка рэгулярнага карыстання імі саслабляе пачуццё асцярожнасці.

Сёння амаль у кожным доме маецца не адзін дзясятак розных электрычных прылад. Гэта асвятляльныя прыборы, тэлевізары, халадзільнік, пральныя машыны, прасы, электрачайнікі, абагравальнікі і т.п. Давайце паглядзім, якія ж небяспекі могуць хавацца ў гэтых звыклых для нас прыборах і да чаго можа прывесці неасцярожнае абыходжанне з імі.

**1.** Своеасаблівым “слабым месцам” шматлікіх электрапрыбораў з’яўляецца сеткавы шнур. З-за частых выгінаў з часам магчымы надлом ці абрыў токаводнай жылы, што вядзе да іскрэння, нагрэву і, магчыма, узгарання ізаляцыі провада. Часцей за ўсё такое пашкоджанне ўзнікае ў месцы мацавання шнура да вілкі. Не цягніце за шнур, каб выцягнуць вілку з разеткі. Неабходна таксама сачыць за спраўнасцю ізаляцыі сеткавага шнура, бо любое дакрананне да аголенага провада можа мець сур’ёзныя наступствы. Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі з пашкоджанай ізаляцыяй провада.

**2.** Рамонт электрычных прыбораў павінен выконваць толькі кваліфікаваны спецыяліст. Зняўшы кожух электрапрыбора, вы ўжо падвяргаеце сябе смяротнай небяспецы, бо ў шматлікіх прыладах нават пасля іх адключэннядсеткінекаторы час захоўваецца электрычны зарад на кандэнсатарах, а пры наяўнасці ў прыборы высакавольтных элементаў схем атрымаць электрычны ўдар можна, толькі наблізіўшы руку на небяспечную адлегласць да такога ўчастка схемы.

**3.** Вентыляцыйныя адтуліны электрапрыбораў – зона падвышанай увагі. Не дапушчайце траплення праз іх вадкасцяў ці металічных прадметаў унутр прыбора. Для гэтага ніколі не стаўце на тэлевізар, манітор, прайгравальнік вазы з кветкамі, не дазваляйце дзецям кідаць штосьці ўнутр корпуса праз адтуліны, не кладзіце на паверхню электрапрыбораў дробныя металічныя рэчы (сашчэпкі, шпількі, ключы і г.д.). У той жа час нельга чым-небудзь закрываць вентыляцыйныя адтуліны ў пазбяганне ўзгарання прыбора.

**4.** Ніколі не карыстайцеся электрапрыборамі ў ваннай ці пад душам – вільготная скура і зазямляльная ўласцівасць металічнай ваннай не пакінуць вам шчаслівага шанцу ў выпадку падзення прыбора ў ваду ці наяўнасці пашкоджанняў у яго ізаляцыі. Таксама не карыстайцеся электрапрыборамі з сілкаваннем ад электрасеткі на вуліцы падчас дажджу, снегапада ці смугі.



**5.** Не пакідайце электрапрыборы ўключанымі без нагляду. Гэта датычыць таксама і прылад, якія могуць функцыянаваць у так званым “дзяжурным рэжыме”, практычна не спажываючы электраэнергіі, але застаюцца падключанымі да сеткі для выканання некаторых сваіх функцый. Пагляздіце ў інструкцыю па эксплуатацыі – як правіла, не дазваляецца пакідаць прыбор у дзяжурным рэжыме больш 1-2 сутак.

**6.** Запрасіце спецыялістаў для праверкі стану электраправодкі і электрычных прыбораў у вашай кватэры. Звярніце ўвагу на абавязковую наяўнасць зазямлення карпусоў электрапрыбораў. Можна таксама ўсталяваць прыладу ахоўнага адключэння (УЗО) – адмысловы аўтамат, які адключае падачу электратоку ў выпадку дакранання чалавека да токаводных частак абараняемай электрасеткі.

**7.** Растлумачвайце дзецям правілы карыстання электрапрыборамі, для маленькіх дзяцей і хатніх жывёл абмяжуйце магчымасць непажаданага кантакту з электрычнасцю: зачыніце разеткі адмысловымі заглушкамі, не пакідайце ў разетцы вілку шнура сілкавання, нават калі электрапрыбор выключаны.

**Выкананне гэтых простых правіл паслужыць гарантам бяспекі для вас і вашых блізкіх.**

# У Глыбокім дзяўчына дзеля грошай "пахавала" бацьку

**Незвычайную крымінальную справу расследуюць следчыя Глыбоцкага раёна. Працаўніца адной з бюджэтных устаноў незадоўга да Новага года паведаміла калегам пра вялікую бяду – у яе, нібы, памёр бацька-пенсіянер.**

Бацькі 26-гадовай дзяўчыны жылі ў суседнім раёне, і ў спачуваючых калегаў не было нават ценю сумневаў у праўдзівасці сумнай інфармацыі. Тым больш, жадання яе праверыць. Дзяўчына вельмі артыстычна разгуляла жалобу.

Пракурор Глыбоцкага раёна Ігар Валынец распавядае:

*- Як і належыць у такіх выпадках, калегі сабралі грошы на пахавальную цырымонію. Плюс – выплацілі дзяўчыне належную па калектыўнай дамове матэрыяльную дапамогу. Калега, якая раптам "страціла" бацьку і атрымала на рукі 2,5 мільёна рублёў, з'ехала на "пахаванне". А праз некаторы час зусім выпадкова працаўнікі ўстановы даведаліся, што бацькі прабывалай у жалобе сяброўкі жывыя-здаровыя…*

*Абураныя такой блюзнерскай хлуснёй, яны звярнуліся ў міліцыю. Зараз па факце махлярства ў стаўленні дзяўчыны ўзбуджана крымінальная справа. Бацькі дзяўчыны, як і ўсе астатнія, збянтэжаны і шакаваны "вынаходлівасцю" дачкі. Яны ўжо кампенсавалі суму "пахавальных" і ўстанове, і супрацоўнікам.*

*Абвінавачваная сваю віну цалкам прызнае і тлумачыць, што была змушана пайсці на гэты крок па прычыне грашовых цяжкасцяў. Пра тое, на якія менавіта мэты выдаткавала незаконна атрыманыя сродкі, толкам распавесці не можа. Версій у яе некалькі. У тым ліку – неабходнасць вярнуць узятыя, нібы, у доўг грошы ў сяброў.*

"Фантазёрцы" пагражае да 3 гадоў пазбаўлення волі. Раней дзяўчына да крымінальнай адказнасці не прыцягвалася, у яе з мужам двое маленькіх дзяцей.

***Алена Бегунова, СБ.***

# У Пастаўскім раёне забілі 75-гадовую жанчыну і напалі з сякерай на паштальёна

Днём 15 студзеня ў міліцыю ад вадзіцеля Пастаўскага раённага вузла паштовай сувязі паступіла паведамленне пра напад узброенага сякерай мужчыны на паштальёна, якую заяўнік прывёз для ўручэння пенсіі адной з пажылых жыхарак вёскі Баранавічы Пастаўскага раёна. Нападнік уцёк, а вадзіцель у тэрміновым парадку адвёз пацярпелую калегу ва ўстанову аховы здароўя для аказання медыцынскай дапамогі.

Падчас агляду прыватнага дома, у які паштальён прывозіла пенсію, следчымі было знойдзена цела пенсіянеркі, 1941 года нараджэння.

У выніку пісьменна спланаваных і аператыўна праведзеных першапачатковых следчых дзеянняў і пошукавых мерапрыемстваў па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрыманы раней судзімы за крадзеж мясцовы жыхар, 1960 года нараджэння, які перыядычна наведваў загінулую пенсіянерку пад падставай аказання дапамогі па гаспадарцы.

Па дадзеным факце Пастаўскім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь заведзена крымінальная справа па ч.2 арт.139 (забойства заведама састарэлай асобы) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Следчыя працягваюць расследаванне крымінальнай справы: працуюць з падазраванай асобай, допытваюць сведак, прызначаюць неабходныя экспертныя даследаванні. З мэтай аказання практычнай і метадычнай дапамогі ў зборы і замацаванні доказнай базы на месца здарэння выехалі супрацоўнікі следчага ўпраўлення УСК па Віцебскай вобласці.

***sk.gov.by***

# У Мёрскім раёне егера застрэлілі за тое, што ён «здаў» злодзеяў міліцыі; забойцу пагражае расстрэл

**Следчы камітэт завяршыў расследаванне крымінальнай справы па факце забойства егера, якое адбылося летам у аграгарадку Цвецiна Мёрскага раёна – 57-гадовага мужчыну застрэлілі наўпрост ў двары ўласнага дома, злачынец схаваўся.**

Раніцай наступнага дня ў кінутым доме, размешчаным у тым жа населеным пункце, міліцыя затрымала 45-гадовага мясцовага жыхара. Была заведзеная крымінальная справа.

*— Вызначана, што менш чым за суткі да здзяйснення забойства, абвінавачваны са сваёй жонкай загадзя дамовіліся з вартаўніком сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства «Цітава» аб здзяйсненні крадзяжу буйной рагатай жывёлы з тэрыторыі цялятніка. Муж з жонкай, працуючы жывёлаводамі на прадпрыемстве, добра арыентаваліся ў пытаннях вядзення штодзённага ўліку пагалоўя. Яны прыехалі на тэрыторыю прадпрыемства позна вечарам і пакінулі ў цялятніку загадзя прывезенага з сабой маладога быка коштам менш за мільён беларускіх рублёў, падмяніўшы ім буйнога быка коштам больш за пяць мільёнаў рублёў,* – распавялі ў УСК па Віцебскай вобласці.

Выпадковым сведкам вывазу буйной рагатай жывёлы з тэрыторыі прадпрыемства стаў егер Дзісенскага лясгаса. Мужчына па тэлефоне паведаміў пра злачынства свайму знаёмаму, папрасіўшы таго патэлефанаваць у міліцыю. Пасля паведамлення аб злачынстве па месцы жыхарства падазраваных былі праведзеныператрус і знойдзены бык з інвентарным нумарам сельскагаспадарчага прадпрыемства.

*— Жадаючы адпомсціць за паведамленне ў праваахоўныя органы аб крадзяжы, падазраваны ў забойстве, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, накіраваўся да дома егера, дзе прыцэльным стрэлам з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы ў прысутнасці жонкі і сына здзейсніў забойства мужчыны, а таксама пагражаў забойствам членам сям'і загінулага.*

Мужчыну абвінавачваюць у прысваенні маёмасці, здзейсненай групай асоб па папярэдняй змове, пагрозе забойствам, незаконных дзеяннях у дачыненні да агняпстрэльнай зброі, забойстве, здзейсненым з асаблівай жорсткасцю, асобы ў сувязі з выкананнем грамадскага абавязку. Яго жонка можа быць таксама прызнана вінаватай у прысваенні маёмасці.

Крымінальная справа хутка сыдзе ў суд.

# Маёр Корсак у Расонскім раёне затрымаў груз матыля

**Супрацоўнікі Расонскага аддзялення ДАІ маёр Андрэй Корсак і лейтэнант Канстанцін Бондараў спынілі аўтамабіль жыхара райцэнтра, які перавозіў 23кг лічынак камароў сямейства Chironomidae.**

Груз коштам 18 400 000 рублёў перасоўваўся нелегальна, таму аўтамабіль "Volkswagen Golf" і матыль затрыманы, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

***ННВ.***

# У МУС Беларусі ініцыяваны праверкі па 16 матэрыялах у дачыненні да беларускіх грамадзян, якія падазраюцца ва ўдзеле ў баявых дзеяннях ва Украіне

**Галоўным упраўленнем па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ініцыяваны праверкі па 16 матэрыялах у дачыненні да беларускіх грамадзян, якія падазраюцца ва ўдзеле ў баявых дзеяннях на тэрыторыі Украіны. Аб гэтым БелаПАН паведаміў начальнік упраўленняінфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Канстанцін Шалькевіч.**

Паводле яго слоў, цяпер МУС сумесна з Генеральнай пракуратурай, Следчым камітэтам і Дзяржаўным камітэтам судовых экспертыз вядзе работу па дачы юрыдычнай адзнакі дзеянням фігурантаў.

Паводле звестак БелаПАН, ніводнай крымінальнай справы ў дачыненні да гэтай катэгорыі грамадзян пакуль не распачата.

Нагадаем, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 14 студзеня на нарадзе з нагоды зацвярджэння рашэння на ахову дзяржаўнай мяжы органамі пагранічнай службы запатрабаваў ад сілавікоў "імгненна разабрацца" з тымі беларусамі, якія ўдзельнічаюць у канфлікце ва Украіне з абодвух бакоў.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

# П'яны хуліган у Барысаве збіў брыгаду хуткай дапамогі

**У Барысаве п'яны хуліган збіў працаўнікоў хуткай медыцынскай дапамогі.**

3 студзеня на пульт хуткай дапамогі паступіў званок з кватэры па вуліцы Трусова пра тое, што 32-гадовы мужчына знаходзіцца без свядомасці, яму неабходна тэрміновая медыцынская дапамога, піша БелаПАН.

Прыехаўшы на месца, урач і фельчар убачылі, што мужчына папросту п'яны. Нягледзячы на гэта, яны паспрабавалі апрытомніць яго. Аднак, ачуняўшыся ад алкагольнага чаду, «хворы» накінуўся на медыкаў з кулакамі. Працаўнікі хуткай дапамогі атрымалі некалькі ўдараў ад п'яніцы. Яны выклікалі міліцыю.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў хутка ўціхамірылі дэбашыра, а пацярпелыя медыкі напісалі заяву, каб прыцягнуць вінаватага да адказнасці.

***БелаПАН***

# Міліцыя шукае скуралупаў, якія павесілі ў Рэчыцкім раёне сабаку

**Міліцыя шукае скуралупаў, якія павесілі ў Рэчыцкім раёне (Гомельская вобласць) сабаку.**

14 студзеня на сайце homel.greenbelarus.info, а таксама на іншых інфармацыйных рэсурсах, выйшаў матэрыял "Скуралупы сярод нас: у Рэчыцкім раёне невядомыя павесілі сабаку". Як паведамляе партал, гэта адбылося 7 студзеня каля вёскі Броннае Рэчыцкага раёна. Мясцовая жыхарка гуляла са сваімі сабакамі ў лесапаласе. Падчас прагулкі жывёлы раптам павялі сваю гаспадыню ўглыб, нібыта нешта ўчуўшы, і прывялі ў яр, дзе дзяўчына ўбачыла павешанага на дрэве сабаку.

"Паколькі ў дзеяннях неўстаноўленай асобы бачыцца склад злачынства, прадугледжанага арт. 339-1 КК (жорсткае абыходжанне з жывёламі), цяпер АУС Рэчыцкага райвыканкама па гэтым факце праводзіць праверка. Устанаўліваюцца ўсе абставіны справы, а таксама сведкі здарэння", – пракаментаваў інцыдэнт аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама.



Міліцыянеры абяцаюць, што аб выніках праверкі і прынятым рашэнні будзе паведамлена дадаткова.

Артыкул 339-1 КК прадугледжвае крымінальную адказнасць за жорсткае абыходжанне з жывёлай, якое пацягнула яе гібель або калецтва, учыненае з хуліганскіх, карыслівых або іншых ганебных меркаванняў або ў прысутнасці заведама малалетняга, або групай асоб, або паўторна (грамадскія работы, штраф, папраўчыя работы або арышт).

***Алена Германовіч, БелаПАН.***

# Прыватныя Абвесткі







## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80, 1991г.в., 1,6Б.
Т.: 599-74-79(мтс)

ВАЗ-2121 «Ніва», 6млн.руб.
Т.: 8-025-543-78-04(л)+

ВАЗ-2121 «Ніва», сіні, або абмен на Д.
Т.: 329-65-70(мтс)*

Опель-Кадэт,1,6Д,седан, 6 млн.руб.
Т: 8-025-901-97-42(л)+

Опель-Рэкорд, 2,3Д, універсал, 10млн.руб, торг, абмен.
Т.: 8-025-543-78-04(л)+

Опель-Вектра А, 1989г.в., 1,6Б, добры стан, пераварана, пафарбавана.
Т.: 833-32-88(мтс)*

Опель-Астра, 1995г.в., 1,6Б, ц\з, люк, ТА, страхоўка, новы акумулятар, гума, 35млн.руб.
Т.: 811-94-72(мтс)

Опель-Зафіра, 2007г.в., 1,8Б, выдатны стан.
Т.: 218-69-09

Опель-Вектра, 2,0ТДі, 1999г.в., срэбны металік.
Т.: 8-029-218-27-66 (мтс)

ФВ-Пасат В3, 1991г.в., 1,9Д, універсал, 14млн.руб., без торга
Т:8029-286-65-32(мтс)+

ФВ-Пасат В3, 1993г.в., 1,8Б, універсал, 35млн. руб.
Т.: 8029-892-887-21 (мтс)+

ФВ-Пасат, 1999г.в., 2,5Д, універсал, чорны металік, 4х4м, скура, л\д, навігацыя, ксенан, 80млн.руб.
Т.: 730-93-59(мтс)

ФВ-Гольф-3, 1997 Г, 1.9, СДі, 3 дзверы, хэтчбэк, 22.000.000 руб.
Тэл. 8-029 717-34-36 Глыбокае.

ФВ-Т4 Каравэла, 2,5ТДі, 1998г.в.
Т:290-60-01(мтс)

ФВ-Гольф-2, 1988г.в., 1,6Д, пераваранае, пафарбаванае, страхоўка, 20млн.руб.
Т.: 293-75-41

ФВ-Пасат, 1995г/в, 1.9TDI, бардовы металік, седан і прычэп для трактара 2ПТС-4. Шаркоўшчына.
Тэл. 8-033-346-60-31

Форд-Эскорт, 1988г.в., 1,6Д, 5млн.руб.
Т:8025-901-97-42(л)+

Форд-Транзіт, 1991г.в., пасажырскі, на ходу, можна на запчасткі, 17млн.руб.
Т.: 713-33-35(мтс)

Пежо-307, 2006г.в.,1,6Б.
Т.:249-97-33

Пежо-Партнёр, 2010г.в., 1,6НДі, прабег 150тыс.км., пасажырскі, максімальная камплектацыя, чорны металік, новая гума, 5МКПП, з Германіі, 135 млн.руб.
Т.: 8-033-383-30-00***

Фіат-Брава, 2009г.в., 1,4Б, чорны, таніраваны, ідэальны стан, 125млн.руб.
Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Фіат-Фіарына, 1992г.в., «каблук», 6млн.руб., торг, абмен.
Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Фіат-Мульціпла, 1,6Б, 2000г.в., выдатны стан.
Т.: 218-69-09

Мікрааўтобус Мэрсэдэс МВ-100, 1991г.в., грузавы, высокі, максібаза, пераварвны, 29млн. руб., або абмен на л\а або трактар.
Т: 8029-286-65-32 (мтс)+

Мазда-626, 1996г.в., 2,0Д, г\у, ц\з, сігналізацыя, эл\шкло, эл\люстэрка, 23млн.руб, торг, абмен.
Т: 813-99-99(мтс)+

Самазвал ГАЗ-52.
Т.: 813-23-47(мтс)

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі. Дорага.** УНН 223800390881.
**Т:**8029-**210-31-82** (мтс), 8029-**641-88-36**(в) +

Іншамарку ў любым стане, можна аварыйную. УНП 391054913.
Т:8029-518-12-59(мтс), 8029-715-46-92 (мтс)+

Куплю трактар у добрым стане Т-25 або МТЗ-80-82, да яго куплю прычэп, касілку, бульбакапалку, плуг, культыватар і інш.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Л\а, мікрааўтобус на запчасткі (разборку). УНН 391054834 Пасв № 391054834 ад 13.08.2014г.
Т.: 8-033-904-03-89 (мтс)+

Куплю матаблок МТЗ, б/у.
Тэл. 8-029-714-34-33

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі:

Скутар «HORS», 2014г.в., чырвоны, 11млн.руб.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

МТЗ-82.
Т.: 776-98-00(мтс)

Прычэп да легкавога а/м. Т. 8-029 824-60-81

## Здам:

Здам легкавы прычэп 3,0х1,5х1,7,можна на гадзіну,можна без тэнта,кат.В
Т:8033-638-77-22 (мтс)+2

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, В4, С4, С5, С6; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія; Нісан-Прэм'ера Р10, 11,12, Альмера, Мікра, Х-Трэйл Т-31; Опель-Вектра В, Амега В, Астра G, F, Зафіра, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-II, III, IV, Джэта-2, 5, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307, 405, 406, 605, 607, 806; Мазда-626, 2,6;Форд-Мандэа 1,3, Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'южан; Рэно-19, Меган, Кліа, Лагуна1,2-,Сцэнік,Эспайс, Сандэра, Маскат, Логан; Таёта-Карола,Ярыс; Вольва 440,460,ВольваV40; S40, XC70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон, Ксара; Сеат-Таледа, Ібіца, Кардоба; Міцубісі-Лансер, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 1, 2,3, Марэа; Крайслер-Неон; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006 г.в: Ровер-214, 216, 1993г.в. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і паявлічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў.
Т.: 292-99-33 (мтс),33871-83 (в), 8-029-210-31-82 (мтс)
*Ліц. №22380\ 0037920ад23.03.2004г-.выд.ПолацкімРВК да 18.05.2013г. ІП ФіліпсонС.І.- УНП223800390881*+

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае.** Аўтакрэслы дзіцячыя. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06. 2009г.
Тэл. гарачай лініі. Т:8029-712-93-34(мтс)+

**Аўтазапчасткі ў Шаркоўшчыне (ля аптэкі).** Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў. АКБ. Маслы, кузаўныя запчасткі, шыны, аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 39154834 Пасв№391054834-ад13.08.2014г.
Т.: 8029-876-07-17 (мтс), 8-02154-6-04-62+

Да Мэрсэдэс МВ 100: каробка перадач, стартар, генератар, куліса. Больш нічога няма.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Гуму 245\40\R17 зіма, 30% зносу, замежная,- 2,5млн.руб.
Т.: 816-09-00(мтс)+

ДЭО-Эсперо, 1996г.в., 1,8і, R14, ёсць усё, па запчастках.
Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Шыны і дыскі R13-20, акумулятары, аўтамагнітолы, аўтадыванкі. Усё б\у, танна.
Т.:8033-648-30-96 (мтс)+

Фіат-Крома, 1991г.в. Фіат-Фіарына, 1992г.в. «каблук», па запчастках.
Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Опель-Кадэт, Аскона 1,3-2,0Б, 1,6-1,7Д, Амега, Вектра, Рэкорд, Астра, па запчастках.
Т.: 8033-648-30-96 (мтс)+

Пежо-309, 1992г.в., 406, 2000г.в., па запчастках.
Т.: 8-025-543-78-04(л)+

Форд-Эскорт, Сіера, Транзіт, Фіеста, па запчастках.
Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Ніва, Волга, па запчастках.
Т: 8-025-543-78-04(л)+

Опель-Астра F, 1996г.в., 1,7Д, Опель-Вектра,1991г.в., Опель-Амега, 1991г.в., 2,3ТД, Опель-Астра G, 2002г.в., 1,7 Ісузу, універсал, Опель-Кадэт, 1991 г.в., 1,7Д, ФВ-Пасат В3, 1991 г.в.,1,6ТД, універсал, Форд-Сіера, 1991 г.в., седан. Усё па запчастках. Т.: 892-15-85

Запчасткі да рухавіка ЗІД. Рухавік УД-2.
Т.: 891-08-45(мтс)1

Аўтапакрышкі зімовыя новыя, 4шт., 215\65\R16, 1,5млн.руб\шт.
Т.: 8-029-184-36-46

Опель-Астра, 1992 г, 1.6 мона, седан, па запчастках, нядорага.
Тэл. 8-029 898-31-00

Вэбаста на дызельнае аўто, дапаможам устанавіць, 4млн.руб.
Т.: 716-92-64(мтс)

ВАЗ-2109, 1989 г, 1.5 бензін, па запчастках.
Тэл.8-029-546-88-28

Рухавік ад Рэно, 1.4 мона, першай камплектнасці з КПП, крылы пярэднія ад Пежо-405.
Тэл. 8-029-768-16-07

Рухавік да ФОЛЬКСВАГЕН-ПАСАТ 1.9, дызель.
Тэл. 8-029-590-63-55

## Куплю запчасткі:

Запчасткі на ГАЗ-21 і рухавік на ЗАЗ.
Т.: 3-12-46, 714-04-89(мтс)

Вялікую кабіну ЮМЗ (да трактара).
Т.: 519-79-57(мтс), 813-53-75(мтс)

## Прадам нерухомасць:

Дачу ў в. Пашкі, Шаркоўшчынскі р-н, на беразе ракі Дзісна,22млн.руб.
Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Дом у а/г Крулеўшчына, вул. Глыбоцкая 3-В.
Тэл. 8-02157-3-86-39, 8-029-855-95-14 Докшыцы*

Кватэру 3-пакаёвую на 3-м паверсе ў р-не Міра, 69м² аг. пл., з рамонтам.
Т.: 216-80-93 (мтс), 294-67-96(мтс)*

Дачу ў в. Бушыкі, ля возера, лес, вада, туалет, душавая, мэбліраваная.
Т.: 297-70-12(мтс)*****

Кватэру 3-пакаёвую, пераабсталяваную з 4-пакаёвай, 79м², вул. Міра, мэбліраваная, рамонт, у добрым стане, 1млрд.288млн.руб.
Т.: 249-41-04+6

Дом у г. Глыбокае.
Т.: 218-69-09

Кватэру 2-пакаёвую ў г.п. Падсвілле.
Т.: 8-033-613-74-83 (мтс), 8-029-939-52-40(в)

Кватэру 2-пакаёвую ў в. Шунеўцы.
Т.: 5-26-39, 717-65-99(мтс)





* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

Дом у Глыбокім, газавае ацяпленне, вада, каналізацыя, тэлефон, гараж, лазня, хлеў, або абмен на 1-пакаёвую кватэру. Т.: 8-029-298-70-01 (мтс)

Дом, в. Бабічы. Т.: 8-029-898-32-74, 3-34-74

Паўдома, г. Глыбокае, пячное ацяпленне, калодзеж, гаспабудовы, агарод. Тэл. 8-033-679-10-91

Дом у Крулеўшчыне. Т.: 8-029-599-48-36**

Кватэру 1-пакаёвую ў цагляным доме, (раён МКК). Тэл. 8-029 216-02-18

Кватэру 1-пакаёвую ў 2-павярховым доме, на 1-м паверсе, аг.пл. 24м$^2$, вул. Дзяржынскага. Т.: +37529-703-30-75

Кватэру 1-пакаёвую, в. Шунеўцы. Тэл. 8-033-614-71-94

Кватэру 2-пакаёвую, вул. Леніна 26, цэнтр, Глыбокае. Тэл. 8-029 715-92-50

Кватэру 4-пакаёвую ў катэджы 102\55\10м$^2$, кошт па дамове. Т.: 8-029-714-44-65, 8-029-514-44-05

Дом па вул. Кастрычніцкай, д. 35. Тэл. 8-029-718-64-58

Дом 7х11 у г/п Падсвілле, 150 млн. руб. Тэл. 8-029-51-22-657, 8-029-219-16-51

Кватэру 2-пакаёвую, г. Паставы. Тэрмінова, танна. Тэл. 8-02155-46-7-31, 8-033-612-90-94

Кватэру 1-пакаёвую, новай планіроўкі, вул. Савецкая, д. 248 ці абмяняю на 3-пакаёвую кватэру ці дом з даплатай. Тэл. 8-029 718-82-37

Дом, в. Старыя Шунеўцы, 3 км ад г. Глыбокага, гаспабудовы, нядорага. Тэл. 8-029-718-82-37

## Куплю:

Куплю 2-пакаёвую кватэру за 400млн.руб. Т.: 8-029-755-85-46 (мтс)

## Абмен:

Абмяняю 2-пакаёвую кватэру ў г.п. Бараўляны, 9-павярховы цагляны дом, 2-і паверх, 52м$^2$, кухня 9м$^2$, на 2-3-пакаёвую кватэру ў р-не МКК у Глыбокім. Т.: 8-029-572-49-24 (мтс)*

Абмяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. Полацку + 2-пакаёвую кватэру ў Глыбокім на дом у Глыбокім, або іншыя варыянты. Т.: 292-30-93, 2-66-79(мтс)

## Здам:

Здам у арэнду м-н «Бегемот», вул. Леніна, 87, гандлёвыя плошчы на другім паверсе. Т.:8-029-757-37-70, 8-029-714-00-74 (мтс)+

Кватэру 2-пакаёвую, р-н МКК. Т.: +37529-716-57-55

Здам у арэнду павільён у цэнтры горада, 16м$^2$, асобна стаячы. Т.: 8-029-297-70-12 (мтс)*****

Здам у арэнду памяшканнні ў гандлёвым цэнтры «Для Вас»: 7м$^2$, 30м$^2$, 30м$^2$, 25м$^2$, можна выкарыстаць пад цырульню. Т.: 8-029-297-70-12 (мтс)*****

Здам у арэнду памяшканні ў гандлёвым цэнтры «Мерыдыян», г. Глыбокае, вул. Леніна, 16, 40м$^2$ (1 паверх) і 80м$^2$ (2 паверх). Асвятленне, ацяпленне, сігналізацыя. Т.: 211-27-29(мтс)**

## Мэбля на продаж:

Кухню новую. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Кухні.Распродаж астаткаў Нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. Бясплатная дастаўка, выбар варыянтаў і колераў. УНП 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

## Куплю мэблю:

Старую шафу, секцыю, сценку, нядорага. Т.: 8-033-372-45-47 (мтс)

## Куплю камп'ютары і комплектуючыя:

Жорсткі дыск (вінчэсцер) б\у, 40Гб, 80Гб. Т.: 837-50-50

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

**Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. КСТ-12,5, «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкеце. Дастаўка.** УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. **Т.:8029-286-65-32** (мтс), **8029-892-87-21**(мтс), **8029-714-00-74** (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл у лазню, 5,7млн.руб Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

Кацёл у лазню. Т.: 849-73-03(мтс)

## Прадам будматэрыялы:

Кольцы б\у, бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Пліты перакрыцця 2,5-3-метровыя б\у. Цэглу сілікатную палутарную б\у. Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Цэмент М 500 ДО, 39000руб\мяшок. Блокі. УНП 390431716. Т.: 810-04-70(мтс)+4

Кольцы б\у бетонныя для калодзежаў і каналізацый. Т.: 8-029-286-65-32+

Арматура, Д=6мм. Цэгла сілікатная палутарная, б\у. Пліты перакрыцця 2,5 і 3-метровыя б\у. Шыфер новы, шыфер б\у. . Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Ламінат, сайдзінг, кускі лінолиума, **распродаж** астаткаў. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН 391053348, Пасв. №391053348 ад 19.06.2009г. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Лес кругляк. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Нізкія кошты на вокны ПВХ, дзверы металічныя і міжпакаёвыя (магчымы нестандартныя памеры), а таксама лінолеум, ламінат, OSB пліты, каўралін, сайдынг, пвх-панэлі, нацяжныя паталкі і іншае. Тэл. 8-029 849-29-40 унп. 391620162, Бурак А.К.

Плітку сенажную б\у 75х25х9см, у добрым стане. Т.: 8-029-715-41-72

## Куплю будматэрыялы:

Цэмент у мяшках. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32(мтс)+

Двутаўру, таўру,вугалок, швелер. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

## Прадам тэлефоны:

Nokia-6700 C, выдатны стан,70 у.а. Т.: 816-09-00(мтс)+

Sony-Эксперыя L, выдатны стан, 1,3млн.руб., торг. Т.: 715-86-36

АЙФОН 6S (копія), бела-ружовы, новы. Тэл. 8-029-216-10-76 МТС

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Халадзільнік б\у, 570тыс.руб. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Маразільнік б\у, 770тыс.руб. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Параачысціцель «Кархер», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 1,770млн.руб. Т.:8-029-286-65-32 (мтс)+

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834 ад 13.08.14г. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Маленькі кухонны тэлевізар з падстаўкай. Т.: 217-09-84(мтс)

Цэнтрыфугу электрычную для сушкі бялізны. Т.: 5-32-67, 892-88-30

Абагравальнік газавы «пушку». Т.: 812-00-54(мтс)

Тэлевізар каляровы б\у. Машынку швейную б\у. Т.: 599-48-36

Халадзільнікі "Індэзіт", "Атлант". Тэл. 8-029-768-16-07

Маразільнік «Атлант» б\у. Т.: 8-033-612-35-27 (мтс)

Перанасную газавую печ для абагрэва памяшканняў «Майстар-450». Т.: 8-029-714-44-65

Насос "бязбашанка" 2шт. 2.000.000руб. Тэл. 8-029 890-00-51

Прадам еміну:

**Бульбу дробную з дастаўкай,ёсць і вялікая. Т.:8029-514-21-76 (мтс)+5**

Бульбу вялікую. Т.: 891-08-45(мтс)1

Бульбу смачную, разварыстую, дамашнюю. Т.:8029-516-50-09(мтс)

Бульбу. Т.: 891-08-45***

Сала. Т.: 8-02156-3-94-88

Жыўнасць на мяса. Т.: 899-70-86(мтс)

Жыўнасць на мяса. Т.: 8-033-612-90-11 (мтс)**

Жыўнасць на мяса, па 60000 за 1 кг. Тэл. 8-033-399-94-24

Жыўнасць на мяса. Тэл. 3-73-55, 8-029 680-19-95

Жыўнасць на мяса. Т.: 320-38-54(мтс)

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-033 346-73-35

Жыўнасць на мяса (150-160 кг) па 55000 руб. за кг. Тэл. 8-029-890-00-51

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-029-270-93-98

Жыўнасць на мяса. Тэл. 4-12-17

Жыўнасць на мяса, 70-80 кг. Тэл. 8-029-716-51-91

Жыўнасць на мяса. Тэл. 8-029-210-51-35

Яблыкі, грушы дамашнія. Т.: 8-029-714-44-65

## Прадам жывёлу, рыбак:

Маладога козліка на племя або на мяса. Т.: 817-82-16(мтс), 3-18-26+

Жыўнасць на племя, (7-8 тыдняў). Тэл. 8-029-821-94-58 Шаркоўшчына

Жыўнасць на племя. Тэл. 8-029-857-54-35 Шаркоўшчына

Казу пакрытую. Тэл. 8-029 597-29-54

Жыўнасць на племя, 8 тыдняў. Тэл. 8-029-217-39-10

Жыўнасць на племя. Тэл. 3-82-27, 8-025-544-29-88

Жыўнасць на племя 8 тыдняў. Тэл. 8-029 219-58-55

Жыўнасць на племя. Тэл. 8-029-896-36-92

Куплю жывёлу:

Куплю быка, карову, цяля. Тэл. 8-033 657-19-48

**Куплю дорага быка, карову, цяля, а таксама вымушаны зарэз. Тэл. 8-025-521-13-59 Мёры.**

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 597-59-08

Куплю карову, быка, каня. Тэл. 8-029 257-18-59

Куплю быка, каня, карову. Тэл. 8-029-217-85-77

Куплю дорага быка, карову, цяля, а таксама вымушаны зарэз. Тэл. 8-033-696-40-58

## Аддам:

Аддам у добрыя рукі дамашнюю кошку-мышалоўку (падростка). Т.: 8-029-516-50-09 (мтс)

## Прадам тавары для дзяцей:

Дзіцячую каляску «Willy way» 3у1, б\у, 2,8млн.руб., торг. Т.: 8-029-869-85-97, 8-029-744-70-60

Два дзіцячыя зімовыя камбінезоны для хлопчыка (да года і да 3 гадоў). Тэл. 8-029 592-35-59, 5-18-63

Каляску джып, вішнёвага колеру, ложачак плюс матрац, манеж, хадункі, блакітнага колеру. Тэл. 8-029 584-82-96

Каляску джып, у выдатным стане, 1500000 руб. Тэл. 8-029 211-27-15

## Куплю тавары для дзяцей:

Рэчы для дзяўчынкі да 1 года. Т.: 837-50-50*

## Прадам адзенне, абутак:

Зімовыя паліто "Элема", каўнер фіялетавы пясец, бардовага колеру кажух, усё р 58. Тэл. 8-033-679-10-91

Жаночы зімовы пухавік, леапард, памер 46-48, новы. Тэл. 8-029-216-10-76 МТС

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай(альха-бяроза). Т.: 514-21-76(мтс)+1**

Дровы, абрэзкі, нядорага. Кацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Дровы, можна сечаныя. Дастаўка. Т.: 345-37-03(мтс)*

## Прадам сельгасінвентар:

Бульбакапалку, культыватар, касілку ротарную. Т.: 8-033-342-83-79 (мтс)

## Прадам зерне:

Пшаніцу. Т.:8029-516-50-09(мтс)

Зерне.
Т.: 899-70-86

Збожжа.
Тэл. 8-033 308-86-24

Пшаніцу, ячмень.
Т.: 891-08-45***

**Куплю сена:**

Куплю сена.
Тэл. 8-029-213-84-25

**Прадам тавары для здароўя:**

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалаждвае,садзейнічае пахудзенню
Т: 8029-286-65-32 (мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс) + у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ. УНН 391054834 выд.13.08.2014г Глыбоцкім РВК
Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Канькі, п-р 34-35, у добрым стане.
Т.: 8-029-517-46-14 (мтс)+

**Куплю калекцыі:**

Старыя манеты, узнагароды і іншае.
Т.: 757-37-70+

Старыя манеты, значкі, фотаапараты, падстаканнікі, фарфоравыя фігуркі.
Т.: 8029-510-43-80

**Здам**:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду, 6х6=550тыс.-руб\за 3 дні. УНН391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т: 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

**Прадам эл\абсталяванне:**

Кампрэсар прафесійны на 380В, 2,8млн.руб.
Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка) 380В,5,7млн. руб.
Т.: 8029-120-82-52(в)+

Трохфазны эл\рухавік.
Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Шынамантажны станок 380В, станок для рэзкі дроў 380В, кампрэсар 380В, эл\рухавікі 380В: 5кВт, 2,2кВт, 1,5кВт. Шурупавёрт.
Т.: 811-94-72(мтс)

**Прадам іншае:**

Жорны (камні) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў.
Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Бочка пад паліва на 200л, 250тыс.руб.
Т: 8-029-28665-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Кухню новую. Пасв. 391050456 ад 07.03.2008г. выд. Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

**Куплю іншае:**

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю.
Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Пілу прафесійную «Шціль», можна б\у.
Т.:8-029-892-87-21 (мтс)+

**Пасажырскія перавозкі:**

**У Мінск і з Мінска**. Хутка,зручна! ІП Шабан В.В. Ліц.Мінтранспарта№3-32415ад16.12.2012. да 16.12.2022.
Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8029-190-21-99(В)+10

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр**. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г.
Т.: 8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+10

**Грузаперавозкі:**

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т; Рэно з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т; УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам; ФВ мікрааўтобус, ізатэрма, 14 кубоў, 1,5т. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

Грузаперавозкі папутныя, зборныя з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т). УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.Т.:8029-286-65-32 (мтс),8029-892-87-21(мтс)+

**Паслугі:**

Паслугі экскаватара-пагрузчыка, усе віды земляных работ: траншэі, сажалкі і інш. Уборка снега. Наяўны і безнаяўны разлік.УНН391531670.
Т.: 8-033-699-50-99 (мтс), 714-44-99+2

Паслугі трактара-пагрузчыка, уборка снега. УНН391531670.
Т.: 714-44-99(мтс)***

Земляныя работы: МАЗ, Амкадор – пагрузка, перавозка і перасоўванне грунта. УНП 591808413. Тэл.: 8(029) 774-70-60+3

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248.
Т.:8029-713-36-35+6

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае.УНП 390271248.
Т.: 8-029-713-36-35+6

Устройства дахаў і фасадаў, аддзелачныя работы, гіпсакардон, плітка, ламінат, падыманне дамоў. Заключаем дамовы. Дапамога пры пакупцы і дастаўцы матэрыялаў. УНП 391075622.
Т.:8029-717-29-41(мтс), 8044-747-15-94(в)

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473.
Т.: 8-029-593-82-32+6

Адкачка каналізацыі. УНП 300022473.
Т.: 8-029-892-71-34+6

Вырашылі купіць аўтамабіль і сумняваецеся, біты ён ці не біты? Вызначу электронным таўшчыняметрам: фарбаваны, не фарбаваны або падфарбаваны аўтамабіль! УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-120-82-52(в)+

Прыганю аўто пад заказ з Расіі, Літвы. Праверу электронным таўшчыняметрам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

**Паслуга «Дамашні майстар»: 100 работ па доме і офісу.** ***Эл\-мантажныя работы***: мантаж і замена свяцільнікаў, лічыльнікаў эл\энергіі, аўтаматычных выключальнікаў, эл\кабеля, разетак, выключальнікаў, эл\з-ванкоў; выяўленне і ліквідаванне няспраўнасцяў эл\праводкі. ***Сантэхнічныя работы***: замена і мантаж лічыльнікаў вады, труб, змяшальнікаў, кранаў, унітазаў, умывальнікаў, душавых кабін; Мантаж труб з поліпрапілена для ацяплення і вадаправода. ***Дробны рамонт кватэр і дамоў***: плінтусы,адкосы, рамонт балконаў, укладка ламіната, лінолiума; навешванне карцін, карнізаў, люстэрак, дываноў, кранштэйнаў пад тэлевізар, зборка мэблі,урэзка мыек, замкоў. Устаноўка і падключэнне бытавой тэхнікі. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. Пастаянным кліентам зніжкі! Вопыт, якасць, выезд апаратыўна.ІП Жук В.І. УНП 391530-77 ад 18.12.2014г.
Т.:8029-816-03-64, 8-029-379-77-94****

**Музычнае абслугоўванне, вядучы на Вашы ўрачыстасці, юбілеі. УНП300592220 Гутар С. В.**
**Т. 8-033-308-96-78**

Выканаю аддзелачныя работы: гіпсакардон, ламінат, шпаклёўка, плітка, установка дзвярэй і іншыя будаўнічыя работы. УНН339107664.
Т.: 896-50-14**

Вырабім кухні, шафы-купэ па Вашых памерах. Якасць, карокія тэрміны, растэрміноўка. УНП 391054410.
Т.: 513-34-12****

Будаўнічыя работы: укладка пліткі, штукатурка, сцяжка, укладка ламіната, гіпсакардон, устройства перагародак і многае іншае. Гарантыя якасці. УНП 391534600.
Т.: 849-72-62(мтс) (Аляксандр)*

Зборка, усталёўка корпуснай, убудаванай мэблі, кухняў, шафаў-купэ. УНП 391243799 ІП Шыльнікаў М.Ю. Тэл. 8-029-8-47-41-63

Аздабленне балконаў і лоджый пад ключ (уцяпленне, ашалёўка сайдынгам, падлогі, паталкі і г.д.), дастаўка матэрыялу.
Тэл. 8-029 849-29-40 унп.391620162 ІП Бурак А.К.

Брыгада будаўнікоў выканае любыя будаўнічыя працы плюс дастаўка будаўнічага матэрыялу.
Тэл. 8-029 849-29-40. унп. 391620162, ТП Бурак

Выраб, зборка, рамонт, рэстаўрацыя і перацяжка мэблі. Стаж працы. Індывідуальны падыход да кліентаў.
Тэл. 8-033-377-36-02 УНП 391591642 ІП Крывец В. В

**Шукаю працу:**

Рамонт аўтабампераў.
Т.: 892-15-85*

Дапамагу павесіць ЖК тэлевізары, карнізы, плінтусы і іншыя дробныя рамонты па дому.Т.8033-306-96-02

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку,ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак.
Т.: 595-48-68+

Пасяку, парэжу і злажу дровы, і іншыя работы.
Т.: 8-033-678-17-15**

**Прапаную працу:**

Патрабуецца рубшчык зрубаў. УНН 391054834. Пасв. №391054834 ад 13.08.2014г.
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Патрабуецца рознарабочы на будоўлю, грузчык. У арганізаваных брыгадах «шабашнікаў» няма патрэбы. УНН 391054834 выд. 13.08.2014. Глыбоцкім РВК.
Т:8029-892-87-21, 8029-286-65-32(мтс)+

На часовую работу патрабуецца дзяўчына - памочнік мэнэджара. УНН391053348.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Патрабуецца касір.
Т.: 8-029-598-79-13(мтс)

Патрабуецца вадзіцель для ПП на лесавоз з гідраманіпулятарам.
Т.: 8-029-756-58-87*

ЧТУП «ЛАГЕНАР» (крама "Лагуна") патрабуецца прадавец.
Тэл. 8-029-515-52-04, 8-029 512-82-23

Патрабуецца рэпетытар па польскай мове.
Тэл. 8-029-514-25-92

Патрабуецца вадзіцель катэгорыі Е, для працы на рэфрыжэратары.
Тэл. 8-033 305-19-05

Патрабуецца слесар.
Тэл. 8-033 305-19-05

## Штрафы для ІП за парушэнне тэхрэгламентаў могуць зменшыць

■ Юлія Огнева - БЕЛТА

**Адміністрацыйная адказнасць індывідуальных прадпрымальнікаў (ІП) Беларусі за парушэнне тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза можа быць зменшана.**

Такая магчымасць абмяркоўвалася на нарадзе членаў грамадскага кансультатыўнага савета (ГКС) па актуальных пытаннях работы ІП, якія ажыццяўляюць гандаль таварамі лёгкай прамысловасці, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства эканомікі, на базе якога прайшло мерапрыемства. Паводле слоў намесніка старшыні Дзяржстандарта Сяргея Іўлева, падрыхтаваны прапановы па зніжэнні памеру штрафных санкцый да індывідуальных прадпрымальнікаў за парушэнні ў галіне санітарна-эпідэміялагічных патрабаванняў і патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў. «Праект змяненняў накіраваны на ўзгадненне з зацікаўленымі», - сказаў ён. Нарада членаў ГКС адбылася пад старшынствам намесніка міністра эканомікі Ірыны Касцевіч. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі зацікаўленых дзяржорганаў, а таксама бізнас-супольнасці. У ходзе абмеркавання лідарамі бізнас-саюзаў было адзначана, што адной з прычын нявыхаду індывідуальных прадпрымальнікаў на работу пасля 1 студзеня 2016 года з'яўляецца якраз апасенне прымянення да іх строгіх мер, прадугледжаных указам нумар 48 «Аб мерах па забеспячэнні дзяржаўнага кантролю (нагляду) за выкананнем патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў» за невыкананне правіл і працэдур абавязковага пацвярджэння адпаведнасці прадукцыі патрабаванням тэхнічных рэгламентаў Мытнага саюза, Еўразійскага эканамічнага саюза. Таксама індывідуальныя прадпрымальнікі заклапочаны складанасцю парадку ажыццяўлення працэдур, звязаных з пацвярджэннем адпаведнасці прадукцыі патрабаванням тэхнічных рэгламентаў.

## Усміхніцеся

Бабушка, а чего ты удалилась из Одноклассников?
— Одноклассники кончились.
***
В суде расследуется дело... Перед судьёй стоит хиленький интеллигентный мужчина в очках и радостно улыбается. Судья спрашивает:
- Как это вы смогли убить молотком вашу тёщу?
А он, поправив очки и ещё шире улыбнувшись, ответил:
- Каждый сам кузнец своего счастья...
***
Встречаются два мужика-автомобилиста.
Один говорит:
- Ты знаешь, моя жена ездит, как молния.
Другой спрашивает:
- Что, так быстро?
- Не, сразу в дерево.
***
Поступает мужик на работу в пожарную часть. Надо пройти конкурс - проспать как можно больше времени. Ну, проспал мужик трое суток. Приходят замы к начальнику, докладывают. Начальник:
- Гоните его в шею! Да он на должность начальника претендует!
***
Одного больного укусила собака. Он почувствовал себя плохо и обратился к врачу:
- Мой друг, должен вас огорчить: у вас бешенство.
Пациент взял лист бумаги и начал быстро что-то писать.
- Зачем вы пишите завещание? - спросил врач. - Я постараюсь вас вылечить.
- Это не завещание. Я составляю список тех, кого мне надо укусить, прежде чем я умру.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Клятва рыцаря | Народное собрание у древних греков | Ночной ... | | | | | | |
| | | | | Ветвь горной цепи | | Ветер | | Спутник туриста | |
| | Снежная ... | Мужское имя | | | | | | | |
| | | | | Опера Даргомыжского | | Маршал Наполеона | | Японский театр | |
| Музыкальный ансамбль | | "Вечный город" | | | | | | | |
| Древняя страна на Ближнем Востоке | | | | | Заблудшая ... | | | | |
| Пищевой продукт | Страна в Азии | | Дрожь от холода | | Мушкетер | | Стиль под старину | | Индийский князь |
| | | | | | | | | Кормовое растение | |
| | Бытовой комфорт | | Ы | Адм.-терр. единица в Швеции | | Часть патрона | | | |
| | | | | | | | | Почтовая станция на Руси | |
| Разновидность турмалина | | Спутник Сатурна | | | | Опора моста, плотины | | | |
| ...-трава | | | | | Древнеримская богиня | | | | |

**Ответы на сканворд № 2**
**По горизонтали:** Пасифе. Дефиле. Мятлик. Потап. Уха. Чан. Правнук. Олово. «Новь». Яйва. Мале. Ноа. Стогна. Байт. Вага.**По вертикали:** Пьеро. «Прима». Свет. Фатиха. Ляпунов. Лучко. Канцона. Пупс. Траян. Ульянов. «Орест». Чага. Йога. Ванг. Аа.

## Гараскоп на Новы 2016 год



**АВЕН.** Вашы спадзяванні і надзеі гэтага тыдня будуць звязаныя з домам і сям'ёй. Выдатны час, каб заняцца ўладкаваннем хатняга ачага, зрабіць касметычны рамонт кватэры. Толькі не ўзвальвайце ўсе клопаты на сябе - падзяліцеся імі з роднымі людзьмі, разам вырашайце бягучыя бытавыя пытанні.



**ЦЯЛЕЦ.** Калі вы заўважыце, што ўсе вашыя пачынанні сустракаюць жорсткі супраціў і не рухаюцца наперад, не панікуйце. Набярыцеся цярпення, не праспешвайце падзеі і захоўвайце спакой. Лепш сыдзіце ў цень і нічога не прынімайце. Беражыце душэўныя і фізічныя сілы. Яны вам хутка спатрэбяцца.



**БЛІЗНЯТЫ.** І на працы, і ў асабістых справах прыйдзецца спадзявацца толькі на сябе. Збярыцеся з духам, не звяртайце ўвагі на перашкоды, якія сустракаюцца на шляху, нікога не слухайце. За што б вы ні ўзяліся, усё ў вас атрымаецца. Важна толькі мець выразную пэўную мэту і рашуча да яе ісці. У сярэдзіне тыдня пажадана пазбягаць непатрэбных і малапрыемных сустрэч, інакш да канца тыдня вы можаце адчуць заняпад сіл. Нядрэнна праверыць некаторых дзелавых партнёраў на надзейнасць.



**РАК.** Зоркі загадваюць вам супакой і адзіноту. Нічога сур'ёзнага не прадпрымайце - выкарыстоўвайце момант, каб набрацца сіл перад рашучым рыўком. Скараціце да мінімуму любыя кантакты, часцей бывайце сам-насам з сабой, займіцеся сваім здароўем, адпачніце ад працы і жыццёвых клопатаў.



**ЛЕЎ.** Добры час, каб прывесці свой дом у парадак і абнавіць інтэр'ер. Вашы планы пачынаюць рэалізоўвацца. Праўда, трэба будзе шмат працаваць і праявіць дзелавую актыўнасць. Ёсць зорныя перадумовы да цікавых знаёмстваў, якія апынуцца карыснымі і для працы, і для жыцця ўвогуле. Так што не стараніцеся новых людзей. Зараз закладваецца падмурак вашых будучых здзяйсненняў і поспехаў.



**ПАННА.** Верагодна, навагодняя весялосць у вас зацягнецца да 21 студзеня. І гэта выдатна! Проста атрымлівайце асалоду ад жыцця, акружайце сябе прыемнымі і прыгожымі рэчамі, кантактуйце з мілымі сэрцу людзьмі, чытайце, напітвайцеся пазітыўнымі эмоцыямі, рабіце ўсё з задавальненнем, без напружання.



**ВАГІ**. У пачатку тыдня ў барацьбе за справядлівасць паспрабуйце пазбягаць непатрэбных канфліктаў і непаразуменняў. На парадку дня сямейныя і хатнія пытанні. Не давайце волі эмоцыям, паспрабуйце не правакаваць канфліктаў з блізкімі і любімымі людзьмі, не падвышайце голас. У складаных сітуацыях прыслухоўвайцеся да сваёй інтуіцыі, нават калі яе падказкі супярэчаць здароваму сэнсу. У другой палове тыдня цікавая праца можа паглынуць вас без астатку. Але пакіньце сабе хоць трохі сіл на выхадныя дні, калі можна будзе актыўна адпачыць.



**СКАРПІЁН.** Так ужо атрымліваецца, што многае ў жыцці прыйдзецца пачаць з чыстага ліста. Не супраціўляйцеся пераменам! Дапамажыце свайму лёсу зрабіць вас шчаслівымі. Нічога асаблівага не спатрэбіцца - проста адкрыйце сваё сэрца, будзьце шчырымі і ні ў чым не змяняйце сабе. І ўсё, што вам будзе трэба, прыйдзе.



**СТРАЛЕЦ.** Вышэйшыя сілы будуць падтрымліваць вас, памятайце пра гэта і давярайце сваёй інтуіцыі. Для поспеху ва ўсіх справах вам трэба адкінуць звыклыя шаблоны і паспрабаваць дзейнічаць нестандартна. Пры гэтым важна ўлічваць асабістыя інтарэсы і цвёрда стаяць на варце сямейнага дабрабыту. Жывіце ў гармоніі з сабой, не звяртаючы ўвагі на тое, што могуць сказаць пра вас навакольныя



**КАЗЯРОГ.** Прыйшла пара творчасці, увасаблення ў жыццё запаветных жаданняў і даўно вызначаных планаў. У асабістым жыцці, у доме і сям'і пануюць гармонія і паразуменне. А каб так і заставалася, больш часу праводзьце з дзецьмі, паспрабуйце таксама не ігнараваць просьбы сваіх каханых. На гэтым тыдні вам неабходна карэктна выбудаваць адносіны з тымі, хто знаёмы вам нядаўна - новымі калегамі, нядаўна якія з'явіліся сябрамі або любімым чалавекам. Не здавайцеся пры першых цяжкасцях сумеснага жыцця. Атрымлівайце асалоду ад здабытага шчасця.



**ВАДАЛЕЙ.** Маецца быць даволі нервовы тыдзень. Але ўсё складзецца вельмі добра, калі зможаце справіцца са сваёй залішняй самаўпэўненасцю і нецярплівасцю. Не скачыце вышэй галавы, не спрабуйце апярэдзіць самі сябе - вырашайце задачы па меры іх паступлення, і тады ўсе вашы намаганні ўвянчаюцца поспехам. Сям'я для вас цяпер на першым месцы. Паклапаціцеся аб сваім доме, яго добраўпарадкаванні і выгодзе.



**РЫБЫ.** Амаль увесь тыдзень пройдзе ў прыемных клопатах. Падстаў для добрага настрою прадставіцца мноства. Толькі не сядзіце на месцы і не сумнявайцеся ў сабе. Спрыяльны тыдзень для пераходу да новага віду дзейнасці, зменаў у кар'еры. Зацятасці павінна хапіць, але вынік можа вас злёгку расчараваць. Аднак потым убачыцца, што ўсё да лепшага. Пасля 20 студзеня пачынайце выбудоўваць планы на будучыню і прадпрымайце актыўныя крокі па поўным пераўладкаванні свайго жыцця.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 19.01.2016 г. у 20[50]
Наклад 1500 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова 35

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае